● выдаецца са жніўня 1917 г. **БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** ● кошт 3000 рублёў

**22** жніўня 1998 г. субота, № 165 (23516)



# ЗВЯЗДА

**НАДЗЁННА**

## ПАВЕЛІЧЭННЕ ПЕНСІЙ АДБУДЗЕЦЦА Ў КАСТРЫЧНІКУ

**Як стала вядома рэдакцыі, плануецца з 1 кастрычніка павялічыць мінімальную заработную плату. Калі гэта адбудзецца, то ўжо ў кастрычніку ўзрастуць і мінімальныя пенсіі. Што датычыцца працоўных пенсій, то яны будуць павялічаны толькі тады, калі сярэдняя заработная плата работнікаў перавысіць папярэдні ўзровень (па якому налічваюцца пенсіі зараз) больш чым на 15 працэнтаў.**

Як нам растлумачылі ў Міністэрстве сацыяльнай абароны насельніцтва, у ліпені сярэдняя заработная плата работнікаў склала 4.620.084 рублі, якая перавысіла папярэдні ўзровень (майскую зарплату) толькі на 13,07 працэнта.

Гэтага недастаткова, каб павысіць працоўныя пенсіі ўжо ў верасні. Але, як лічыць адзін з адказных работнікаў Мінсацабароны, рубеж у 15 працэнтаў будзе пераадолены хутчэй за ўсё ўжо ў жніўні.

На думку суразмоўцы, падставы для такіх меркаванняў існуюць даволі рэальныя, бо менавіта ў жніўні работнікі сельскай гаспадаркі атрымліваюць больш высокую зарплату, налічаную па выніках жніва.

Па словах спецыяліста Мінсацабароны, у кастрычніку значна павялічацца і мінімальныя, і працоўныя пенсіі.

**Сяргей КУРКАЧ.**



**Наташа і Лена САКАЛОВЫ — сёстры-блізняты. Яны — студэнткі Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

## УЖО ДА ПАЧАТКУ НАСТУПНАГА СТАГОДДЗЯ БУЙНЫЯ ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫЯ КОМПЛЕКСЫ КРАІНЫ ПАВІННЫ ЗАПРАЦАВАЦЬ НА ЎСЮ МАГУТНАСЦЬ

З ходам нарыхтоўкі кармоў і ўкараненнем энергазберагальных тэхналогій на адкорме буйной рагатай жывёлы знаёміўся прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка 21 жніўня ў Баранавіцкім раёне. У рабочай паездцы кіраўніка дзяржавы суправаджалі Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Русакевіч, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч і старшыня Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Заламай.

Прэзідэнт пабываў на дзяржаўным заводзе-камбінаце «Мір», на мясцовых камбінатах — хлебапрадуктаў і бавоўняным.

У камбінаце «Мір» на сённяшні дзень уборка збожжавых закончана. Ураджайнасць склала 36 цэнтнераў з гектара. Дзяржаве прададзена 1050 тон збожжа. У гаспадарцы працягваецца нарыхтоўка траў другога ўкосу. Усяго на стойлавы перыяд тут хочуць назапасіць 4 тысячы тон рознага корму. Але вялікая колькасць кармоў, на жаль, не заўсёды азначае высокія прыбаўленні ў вазе. І Аляксандр Лукашэнка адзначыў гэта, сказаўшы, што сутачныя прыбаўленні ў вазе жывёл у 380 грамаў для такой буйной і сучаснай гаспадаркі — яўна недастаткова.

Каменціруючы ўбачанае, кіраўнік нашай дзяржавы падкрэсліў, што пытанні адраджэння буйных жывёлагадоўчых і свінагадоўчых комплексаў будуць пастаянна пад дзяржаўным кантролем. У савецкія часы, адзначыў ён, на іх будаўніцтва было ўкладзена больш як 2,5 мільярда долараў. І гэтыя сродкі «зарываць» цяпер у зямлю нельга. На думку прэзідэнта, неабходна зрабіць усё, каб гэтыя жывёлагадоўчыя гіганты да 2000 года запрацавалі ў поўную магутнасць.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

## ЦЯПЕР «НАКУРАЦЦА» НАДОЎТА

**Супрацоўнікі транспартнай міліцыі выкрылі злачынную групу, учынiўшую крадзёж буйной партыі цыгарэт на суму звыш паўтара мільярда рублёў.**

Цыгарэты маркі LM транспартаваліся з Германіі ў адрас адной з маскоўскіх камерцыйных фірмаў. У глыбокую ноч з 4 на 5 ліпеня грузавы састаў кранууся са станцыі Брэст-Усходні. Падсеўшыя ў поезд зламыснікі неўзабаве ўскрылі кантэйнер і па ходу руху на працягу пяці—сямі хвілін на ўчастку Брэст — Жабінка выкінулі ў адхон 129 каробаў, у кожным з якіх было па 500 пачкаў. Потым выкрадзены тавар быў сабраны і вывезены ў патаемнае месца. Як аказалася, у састаў злачыннай групы ўвайшлі даволі падрыхтаваныя асобы з ліку жыхароў горада над Бугам, сярод якіх ёсць і былыя спартсмены і двое раней судзімых.

**Віктар БЫКАЎ.**

## У МАГІЛЁЎСКІХ АБІТУРЫЕНТАЎ МАСАВА КУЛЬГАЛА ГРАМАТЫКА

«Прынцып роўных магчымасцяў у асноўным захоўваўся, казаць наадварот няма падстаў», — менавіта так ахарактарызаваны папярэднія вынікі дзейнасці створанай пры Камітэце дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці камісіі па кантролю за работай прыёмных камісій і ўступных экзаменаў у навучальных установах рэгіёна.

На словах намесніка старшыні КДК па Магілёўскай вобласці Пятра Барбарчыка, прынцыпова важных пытанняў абітурыенты і іх бацькі перад камісіяй не ставілі.

Летась камісіі давялося разбірацца з шэрагам выпадкаў так званага «фальшывага хабарніцтва», калі людзі, далёкія ад уплыву на экзаменатараў, прапаноўвалі бацькам абітурыентаў «падтрымку» пры паступленні. І, абсалютна нічога не робячы, зараблялі сабе на жыццё, калі экзамены здаваліся паспяхова і «чэсна» аддавалі грошы ў выпадку правалу. Сёлета выяўлены толькі адзіны такі факт у Магілёўскім медыцынскім вучылішчы: маці абітурыенткі затратабавала ў прыёмнай камісіі дазволу для перадачы экзамена, спасылаючыся на дамову з супрацоўніцай вучылішча. Аказалася, што «дапамогу» абяцала... лабарантка, якая пасля расследавання інцыдэнту была звольнена.

Супрацоўнікі камітэта Дзяржкантролю і грамадскіх камісій адзначылі, што сёлетні сезон паступлення ў навучальныя ўстановы быў адзначаны вельмі слабай падрыхтоўкай абітурыентаў з сельскай мясцовасці, ледзь не масавай нязадавальнасцю медалістаў, выпускнікоў-выдатнікаў ПТВ і тэхнікумаў пацвердзіць належны ўзровень сваіх ведаў, а таксама... агульным няведаннем як беларускай, так і рускай граматыкі. Напрыклад, з 700 абітурыентаў адной з навучальных устаноў абласнога цэнтра больш за 300 атрымалі нездавальняючыя адзнакі па дыктанту, дзе дапусцілі ад 8 да 37 памылак!

Прадстаўнікі ВНУ Магілёўскай вобласці выказалі сваё задавальненне супрацоўніцтвам з Камітэтам дзяржаўнага кантролю. Члены прыёмных камісій ведаюць, што скаргі ад абітурыентаў (асабліва тых, хто на ўступных экзаменах «правалiўся») і іх бацькоў заўсёды былі і будуць, і разбірацца з імі вельмі складана. Цяпер жа істотную дапамогу, па меркаванню кіраўніцтва навучальных устаноў, аказваюць ім менавіта супрацоўнікі КДК, якія на месцы даюць афіцыйныя тлумачэнні пры канфліктных сітуацыях. Праўда, у сваіх падзяках некаторыя навучальныя ўстановы дайшлі да яўнага «перагібу»: прадстаўнікі Магілёўскай школы міліцыі ўсур'ёз прапанавалі супрацоўнікам Камітэта дзяржкантролю прымаць уступныя экзамены... Пакуль жа грамадскія камісіі і дзяржкантроль працягнуць сваю работу па кантролю над паступленнем на завочныя аддзяленні дзяржаўных навучальных устаноў Магілёўскай вобласці.

**Ілона ІВАНОВА.**

**УСМІХНЁМСЯ**



«Ты мая кветачка» Фота Анатоля БАСАВА.



Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

*— Мне трэба тэрмінова знайсці працу: у мяне шасцёра дзетак.*

*— А што вы яшчэ ўмееце рабіць?*

## КУРС ДОЛАРА ДА БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ НА ПАЗАБІРЖАВЫМ РЫНКУ ДАСЯГНУЎ АДЗНАКІ 120 ТЫСЯЧ

Пасля аднадзённага перапынку зноў пачаў расці курс долара ЗША да беларускага рубля на пазабіржавым рынку. За апошнія двое сутак павышэнне склала 9,5 працэнта.

20 жніўня курс павялічыўся са 100-110 да 105-115 тысяч рублёў, а да паўдня 21 жніўня — да 110-120 тысяч рублёў.

Асноўнай прычынай адначаснага росту каціровак амерыканскай валюты аператары пазабіржавага рынку называюць поўную адсутнасць попыту на беларускія рублі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## 50 ПРАЦЭНТАЎ АПЫТАНЫХ КІРАЎНІКОЎ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ЛІЧАЦЬ, ШТО ВЫТВОРЧАСЦЬ СТРЫМЛІВАЕЦЦА ІСНУЮЧЫМ ВАЛЮТНЫМ КУРСАМ

Падчас кан'юнктурнага апытання, праведзенага вучонымі аддзела экапрагнозаў НДІ Мінэканомікі Рэспублікі Беларусь, 180 кіраўнікам прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі было прапанавана адказаць на пытанне «ШТО ЦЯПЕР БОЛЬШ ЗА ЎСЁ СТРЫМЛІВАЕ ВЫТВОРЧАСЦЬ НА ВАШЫМ ПРАДПРЫЕМСТВЕ?».

Сярод прычын, якія стрымліваюць вытворчасць, на першае месца выйшаў недахоп абаротных сродкаў (64 працэнты). Кожны другі эксперт (па 50 працэнтаў) указаў на высокія цэны на сыравіну і матэрыялы, а таксама на валютны курс. 44 працэнты апытаных не задаволены падатковай палітыкай. Па 39 працэнтаў рэспандэнтаў адзначылі такія стрымліваючыя фактары, як нізкі плацежаздольны попыт і неплацяжы спажыўцоў. 28 працэнтаў апытаных незадаволены крэдытна-грашовай палітыкай. І толькі 3 працэнты экспертаў указалі, што на іх прадпрыемствах нішто не стрымлівае працэс вытворчасці.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

## А. ЛУКАШЭНКА І Л. КУЧМА СУСТРЭНУЦЦА Ў КРЫМЕ

Рабочая сустрэча на вышэйшым узроўні прэзідэнтаў Беларусі і Украіны Аляксандра Лукашэнкі і Леаніда Кучмы, дамоўленасць аб правядзенні якой была дасягнута ў ходзе нядаўняй тэлефоннай размовы паміж кіраўнікамі суседніх дзяржаў, адбудзецца ў Крыме. Сустрэча прадоўжыцца з 26 па 29 жніўня.

**БЕЛТА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 21 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 58900 | 59500 | 32860 | 33190 | 8100 | 8510 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 59500 | 60000 | 33200 | 33450 | 8500 | 8550 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 58500 | 6000 | 32600 | 33400 | 8000 | 8500 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) афіцыйны курс | 46000 | | 25602.49 | | 6500 | | Курс на 22.08.1998 |
| спецыяльны курс | 50000 | | 28250 | | 7150 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 7.005 | | 3.8992 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд 1990 па 1997 гады можна набыць. пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 99000 | 99999 | 55031 | 55601 | 13562 | 14286 | |
| Рэальна абгрунтаваны курс | 69500 | 70000 | 38600 | 38900 | 9600 | 9900 | |

РОЗГАЛАС

XVII ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ ПА ЛЁГКАЙ АТЛЕТЫЦЫ




# Апошняе ядро Яніны Карольчык трапіла ў «бронзу»

***Спецыяльны карэспандэнт «Звязды» перадае з Будапешта***

**Пад канец трэцяга дня еўрапейскага чэмпіяната ў Будапешце і Беларусь трапіла ў групу медалістаў, якая на раніцу ўчарашняга дня налічвала 21 краіну. Прычым медаль, што называецца, з неба ўпала, бо беларускую кідальніцу ядра, 22-гадовую Яніну Карольчык з Гродна з саперніц ніхто і ў разлік не браў, ды і напярэдадні турніра «баявога задання» на медаль ад трэнераў яна не мела. Прынамсі, пасля ўзнагароджання бронзавая лаўрэатка Будапешта сказала, што максімум на што яна разлічвала, дык гэта на 5-е месца і не вышэй. І да апошняй, шостай спробы, усё ішло па «плану».**

Аднак, па прызнанню беларускі, як толькі полька К. Заховіч заключны акорд захацела зрабіць бронзавым — 18.77 м, ёй захацелася таксама бразнуць дзвярыма і перакрыць хоць на крыху кідок саперніцы. Кідок удаўся — 19.23, і Яніна зіхацела ад радасці. Наогул, увесь «ядзерны подыум» у гэты вечар быў славянскі. «Золата» ва ўкраінкі Віты Паўлуш (21.69), «серабро» — у расіянкі Ірыны Каржаненка (19.71).

Дарэчы, гэтая троіца прызёраў больш за паўгадзіны адказвала на пытанні рэпарцёраў, пабіўшы гэтым самым рэкорды папярэдніх прэс-канферэнцый.

Потым наша медалістка ахвотна адказала на пытанні журналіста «Звязды».

**— Яніна, якія пачуцці вас ахапілі пасля бронзавага кідка?**

— Прыйшлося яшчэ перачакаць, як кіне снарад расіянка Святлана Крывялёва. Ну, а потым захацелася закрычаць ад радасці.

**— Першае жаданне ў парыве эмоцый.**

— Канешне, патэлефанаваць бацькам у гарадскі пасёлак Поразава, што ў Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці, а таксама сябрам, знаёмым. Хоць, мяркую, яны хутчэй пра гэта даведаюцца ад вас, журналістаў.

**— Дарэчы, многія карэспандэнты паспелі пажартаваць: калі гэта Карольчык паспела прыняць «допінг», перакрыўшы свой папярэдні кідок амаль на метр.**

— Гэта проста нейкая ўнутраная сіла прымусіла мяне сканцэнтравацца і выціснуць з сябе ўсё магчымае. Ну а так мой допінг — гэта моцны сон і добры апетыт.

**— Для кідальніц ядра існуюць якія-небудзь абмежаванні ў меню?**

— Практычна ніякіх. Я, напрыклад, люблю салодкае і нічога з гэтай прывычкай зрабіць не магу.

**— Як ні дзіўна, але калорыі пакінулі пакуль вашу фігуру стройнай, ну а пра прываблівасць Яніны Карольчык я ўжо не кажу: вас тут журналісты ахрысцілі прыгажуняй і задавалі нават пытанні наконт топ-мадэльнай ролі.**

— Ведаеце, для топ-мадэлі я, відаць, не падыду, бо такая работа не для мяне. Па-першае, мне трэба ў вазе скінуць, а па-другое, я люблю працаваць, напрыклад, са штангай. Ды і па натуры я ўсё ж спартсменка, і каб адчуваць сябе ў сектары для кідання ядра больш упэўнена, мне трэба яшчэ пару кг накінуць.

**— Якія бліжэйшыя планы?**

— Прама з Будапешта еду на турнір у Швейцарыю, потым у Індыю. А яшчэ я студэнтка II курса Акадэміі фізвыхавання і мне трэба будзе здаць сесію. Ну, а потым хацелася б махнуць на пару дзён наведаць родны дом, дзе ўжо даўно не была.

Учарашняй надзеяй беларусаў былі дыскаболкі Эліна Зверава і Ірына Ятчанка. Фінал у сектары для кідання дыска пачаўся ў 18.30 па мясцоваму часу.

На раніцу ўчарашняга дня ў спісе медалістаў лідзіравалі расіяне — 9 медаляў (3-4-2), украінцы былі другімі — 2 золата, 1 бронза, трэцімі з двума залатымі медалямі — палякі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



ТРЫ ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА

**Інеса ДРАБЫШЭЎСКАЯ, старшыня Камісіі па сацыяльных пытаннях Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу:**

# «ЗВЯЗДА» АДЗІНАЯ АДКРЫТА ЗАЯВІЛА СВОЙ ПРАТЭСТ...»

**1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— Галоўная прычына заключаецца хутчэй не ў асабістым інтарэсе, а ў прафесійных абавязках. Мая пасада старшыні камісіі вымушае чытаць усе газеты, якія выходзяць у Беларусі, у тым ліку і «Звязду».

**2. З прафесійнага пункту гледжання, што вам падабаецца ў газеце?**

— На жаль, не магу сказаць, што «Звязда» цікавейшая за іншыя агульнанацыянальныя выданні. Гэта раней ваша газета мне вельмі падабалася. Яна мела сваю ўласную думку па розных аспектах жыцця, якая часта адрознівалася ад агульнапрынятай, і не саромелася яе выказваць. Успамінаю сітуацыю з ГКЧП. Тады «Звязда», яшчэ будучы органам ЦК КПБ, аказалася адзінай газетай, якая адкрыта заявіла свой пратэст. Мяне шчыра ўразіла мужнасць журналістаў і рэдакцыйнага персаналу.

Раней выданне нават больш насычана асвятляла дэпутацкую дзейнасць, работу розных фракцый, груп і асобных парламентарыяў. Словам, была вельмі жывая і вельмі аб'ектыўная работа газеты. Цяпер жа «Звязда» згубіла ранейшыя адметныя асаблівасці і стала падобнай на астатнія газеты. Так, мне здаецца, вы моцна здалі пазіцыі.

**3. Што ў такім разе вы хацелі б пажадаць газеце?**

— Хацелася, каб у вас было больш разнапланавых матэрыялаў, у журналісцкіх выступленнях стала менш руціннасці, каб вы пазбаўляліся ад стэрэатыпаў. Хацелася, каб вы ўзнімалі пытанні, якія хвалююць нашых грамадзян, дапамагалі ім прабіцца ў некаторыя ўладныя калідоры, больш жыва рэагавалі на чытацкія запыты.

**Запісаў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# У выпадку ўварвання талібаў на тэрыторыю СНД Беларусь не прыме ўдзелу ў баявых дзеяннях

У выпадку ўварвання талібаў на тэрыторыю СНД Беларусь не будзе прымаць удзелу ў баявых дзеяннях, заявіў у інтэрв'ю «Інтэрфаксу» ў горадзе Баранавічы прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

На яго думку, «што б талібы не рабілі, беларускім салдатам там рабіць няма чаго». «Хопіць. У нас ужо быў Афганістан. Каля 1000 хлопцаў мы загубілі там у свой час», — падкрэсліў А. Лукашэнка.

Паводле яго сцвярджэння, «Мінск будзе абараняць інтарэсы СНД на заходнім напрамку — ад Кіева да Рыгі». «Але ўцягнуць у чарговую авантуру, ствараць нейкі ажыятаж, быццам нас захопяць талібы, не, гэтага не будзе», — запэўніў прэзідэнт.

Ён мяркуе, што вакол магчымай агрэсіі талібаў нарастае «звычайны псіхоз». А. Лукашэнка лічыць, што на самай справе рэальнай пагрозы ўварвання талібаў у СНД не існуе. «Якія талібы?! У іх няма ні ўзбраення, ні сіл для ўварвання на тэрыторыю Садружнасці», — перакананы прэзідэнт.

Мінск таксама не разглядае пытанне аб матэрыяльным удзеле Беларусі ў гэтым канфлікце», «Беларусі там рабіць няма чаго», — заключыў прэзідэнт.

На яго погляд, «трэба проста навесці парадак на паўднёвых межах Расіі, а таксама ў Таджыкістане і Узбекістане — будзе там парадак, будзе адзінства — ніякія талібы туды не рушацца».

А. Лукашэнка лічыць, што «псіхоз ужо прывёў да нанясення ЗША ўдараў па Афганістану і Судану». «Ну і чаго дабіліся? Пасля ўдараў па гэтых дзяржавах загінулі мірныя людзі», — адзначыў А. Лукашэнка.

Паводле яго слоў, «хто хоча ваяваць, няхай ваюе». «Мы ў Беларусі не хочам ваяваць. Людзей сваіх я туды не пашлю ні пры якіх абставінах», — падкрэсліў прэзідэнт Беларусі.

**Інтэрфакс-Захад.**

# ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

● Учора Злучаныя Штаты нанеслі ракетныя ўдары па базах тэрарыстаў у Судане і Афганістане. Як паведаміў міністр абароны ЗША Коэн, цэлямі былі лагер па падрыхтоўцы тэрарыстаў у Афганістане і завод у Судане, які мог выкарыстоўвацца для вытворчасці хімічнай зброі. Паводле даных разведкі ЗША, абодва аб'екты ўтрымліваюцца на сродкі саудаўскага мільянера Бін Ладэна, які лічыцца асноўным арганізатарам тэрактаў у Найробі і Дар-эс-Саламе, у выніку якіх загінулі больш за 250 чалавек, у тым ліку 12 грамадзян ЗША. Выступаючы ўчора з тэлезваротам, прэзідэнт ЗША Клінтан заявіў, што ракетныя ўдары былі нанесены з прычыны непасрэднай пагрозы бяспецы краіны і існуючай інфармацыі аб новых тэрактах, якія рыхтуюцца супраць амерыканскіх аб'ектаў.

● Шэраг дзяржаў сусветнай супольнасці выказаў падтрымку ваеннай аперацыі ЗША ў Судане і Афганістане. Брытанскі міністр замежных спраў Кук параўнаў нядаўнія тэракты ля пасольства ЗША ў Кеніі і Танзаніі з тэрарыстычным выбухам у паўночнаірландскім горадзе Ома. Прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаньяху падкрэсліў, што яго краіна будзе працягваць падтрымліваць ЗША ў барацьбе з міжнародным тэрарызмам

● Прэм'ер-міністр Расіі Кірыенка заклікаў дэпутатаў Дзярждумы перайсці ад агульнапалітычных дыскусій да разгляду канкрэтных законапраектаў, якія ствараюць, па яго словах, умовы для вываду краіны з крызісу. Выступаючы на пазачарговым пасяджэнні Дзярждумы, Кірыенка падкрэсліў, што Расія «толькі ўступае ў паласу цяжкага фінансавага крызісу», вынікі якога стануць асабліва адчувальнымі бліжэй да восені. Дзярждума на сённяшнім пазачарговым пасяджэнні разглядае пытанне аб сацыяльна-эканамічнай і фінансавай сітуацыі ў Расіі.

● Моніка Левінскі зноў пацвердзіла факт сваіх інтымных адносінаў з прэзідэнтам ЗША Клінтанам, даючы ўчора паказанні перад Вялікім журы. Па словах Левінскі, яна засмучана тым, што прэзідэнт назваў іх адносіны выпадковай сувяззю.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

***Версіі***

## Рэзкай дэвальвацыі беларускага рубля Нацбанк не плануе

Адзін з адказных супрацоўнікаў Нацыянальнага банка Беларусі так пракаменціраваў сітуацыю, выкліканую фінансавым крызісам у Расіі.

«Рэзкай дэвальвацыі расійскага рубля пакуль не адбылося. Магчыма, рэзкая дэвальвацыя расійскага рубля адбудзецца на канец года і кошт долара дасягне 9,5 рубля. Але вельмі верагодна, што сітуацыя стабілізуецца».

Зараз Нацыянальным банкам падрыхтаваны два сцэнарыі, па якіх будзе праводзіцца фінансавая палітыка ў Беларусі. Згодна з першым сцэнарыем мэтазгодна даволі значна знізіць курс айчыннай валюты і такім чынам падтрымаць высокую канкурэнтназдольнасць беларускіх тавараў. Праўда, разам з гэтым аўтаматычна падымуцца цэны на імпартныя тавары, што прывядзе да вялікага росту інфляцыі. Нацбанкам разглядаецца і другі сцэнарый па правядзенню мяккай, сярэдняй палітыкі. З аднаго боку, будуць улічвацца інтарэсы экспарцёраў, з другога боку, трэба паспрабаваць выконваць паказчыкі па інфляцыі. Пакуль рана казаць, як сапраўды будуць развівацца падзеі ў Расіі, а разам з тым і які сцэнарый выбера Нацбанк як найбольш мэтазгодны. На сённяшні дзень праўленне Нацыянальнага банка Беларусі не плануе праводзіць рэзкай дэвальвацыі беларускага рубля.

**Сяргей КУРКАЧ.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Беларускіх Кулібіных НАТО запрасіла ў Брусель. Ці паедуць?

Відаць, часы сапраўды мяняюцца. Хочацца думаць, да лепшага. Вось ужо і НАТО ініцыіруе праграму «Навука дзеля міру», якую ў дзяржаўным камітэце па навуцы і тэхналогіях Беларусі лічаць перспектыўнай.

У аддзеле міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва ДКНТ аглядальніку «Звязды» расказалі: пры НАТО існуе Навуковы Камітэт, які, у прыватнасці, займаецца супрацоўніцтвам з дзяржавамі, што падтрымалі вядомую праграму «Партнёрства дзеля міру». Да іх ліку адносіцца і Беларусь. Летась на адрас кіраўніцтва ДКНТ паступіла запрашэнне прыняць удзел у нарадзе ў Бруселі, дзе і былі абмеркаваны перспектывы супрацоўніцтва.

Тады заставалася мала часу да канца тэрміну падачы заявак на ўдзел у праграме, і паспелі аформіць усяго тры праекты. З іх ліку адна заяўка прынята да разгляду (а гэта ўжо гаворыць аб значнасці праекта), адна атрымала фінансаванне.

Сёлета тэрмін падачы дакументаў завяршыўся зусім нядаўна, 1 жніўня, так што пакуль няма дакладных звестак, колькі пададзена заявак. Але на працягу года ў аддзел прыходзілі за кансультацыямі і дапамогай у афармленні многія навукоўцы. Быў праведзены інфармацыйны семінар, на якім прысутнічала 200 чалавек, і на іх шматлікія пытанні падрабязна адказала памочнік дырэктара навуковых праграм НАТО спадарыня Сьюзана Мікаэліс. Так што ў выніку ў Брусель паступіла, відаць, непараўнальна больш праектаў з Беларусі.

Сур'ёзная складанасць пры іх афармленні — наяўнасць (дакладней — адсутнасць) у аўтара ці аўтарскага калектыву замежных партнёраў з краін — членаў НАТО, якраз у рамках прапанаванага праекта. Хутчэй за ўсё Навуковы Камітэт вылучае гэтае патрабаванне, каб мець гарантыю жыццяздольнасці ідэі, у якую збіраецца ўкласці сродкі. І яшчэ адной з абавязковых умоў з'яўляецца тая, што праект павінен быць у рэшце рэшт прыменены на вытворчасці тут, у Беларусі. Таму пры падачы заяўкі называецца заказчык, у якога будзе ўкараняцца даследаванне.

Цікава, што прыярытэтнымі тэмамі для разгляду аб'яўлены тэхналогіі раззбраення, ахова навакольнага асяроддзя, высокія тэхналогіі, у тым ліку ў прамысловасці, камп'ютэрныя сеткі — усё гэта актуальна не толькі для Беларусі. Пры ажыццяўленні праектаў захоўваюцца правы інтэлектуальнай уласнасці. Тым не менш кожны з іх праходзіць навуковую экспертызу ў ДКНТ і без яго згоды не можа быць прыняты НАТО да фінансавання.

Што ж, гэта, бадай, адзіная форма прасоўвання Паўночнаатлантычнага блока на ўсход, якую можна вітаць. Мы пацікавіліся, хто з беларускіх навукоўцаў, якія канкрэтныя калектывы адгукнуліся на магчымасць атрымаць дадатковае фінансаванне для свайго развіцця. Нам назвалі Беларускі дзяржаўны універсітэт, яго інстытут ядзерных праблем, канцэрн парашковай металургіі, палітэхнічную акадэмію, Беларускі дзяржаўны універсітэт радыёэлетронікі і інфарматыкі. А яшчэ — Інстытуты матэматыкі, тэхнічнай кібернетыкі і некаторыя іншыя структурныя падраздзяленні Нацыянальнай Акадэміі Навук. Дарэчы, фінансаванне атрымаў праект БДУ, звязаны з распрацоўкамі ў галіне мікраэлектронікі.

Зусім нядаўна старшыня ДКНТ Віктар Гайсёнак наведаў Брусель, сустрэўся з кіраўніком Навуковага Камітэта прафесарам Л.Сілардам і дырэктарам праграмы «Навука дзеля міру» доктарам Х.Віспеларе, абмеркаваў далейшыя шляхі супрацоўніцтва. Галоўнай праблемай застаецца пошук замежнага партнёра. Не ва ўсіх беларускіх інстытутаў пакуль існуюць шырокія міжнародныя сувязі.

— Аб якіх сумах у выпадку адкрыцця фінансавання ідзе размова? — спыталіся мы ў супрацоўніка міжнароднага аддзела Дзмітрыя Купцеля.

— На адзін праект можа быць выдзелена ад 100 да 300 тысяч долараў ЗША. Але адначасова Навуковы Камітэт запрошвае, каб беларускі заказчык знаходзіў ад 30 да 50 працэнтаў выдзеленай сумы — «зверху», дадаткова. На выплату заработнай платы і падаткаў, як мінімум. Такім чынам прыцягваюцца да даследаванняў магчымасці самой рэспублікі.

Дарэчы, Навуковы Камітэт НАТО гатовы пайсці насустрач аўтарам і выдзеліць сродкі на камандзіроўку ў Брусель, каб там яны змаглі самі абараніць уласныя заяўкі. Гэта ў тым выпадку, калі заяўка зацікавіла Навуковы Камітэт і ДКНТ даў згоду на адкрыццё фінансавання. Але грошы будуць выплочваць толькі самому навукоўцу, каб па дарозе да яго сродкі не «аселі» ў бюракратычных структурах.

Як паведамілі ў ДКНТ, навуковая дзейнасць НАТО ўключае ў сябе, акрамя названай праграмы, інстытуты перадавога навучання, міжнародныя рабочыя групы па паглыбленых навуковых даследаваннях, гранты на правядзенне сумесных даследчых работ і на замацаванне сувязей, на візіты экспертаў, стыпендыі для навуковых работнікаў. Час пакажа, якім будзе эфект ад усіх гэтых несумненна цікавых ініцыятыў Навуковага Камітэта ў Бруселі, а таксама наколькі шчыра НАТО заяўляе пра большую сённяшнюю адкрытасць і наколькі мы ўсе зможам гэтую адкрытасць падобраму выкарыстаць — сапраўды дзеля міру, як і дэкларуецца ў праграме. Рэдакцыя з свайго боку абяцае вярнуцца да тэмы, якая таго заслугоўвае ўжо хоць бы сваёй неардынарнасцю.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

***СЁННЯ***

## СОНЦА

| | Ускод | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.58 | 20.26 | 14.28 |
| Віцебск – | 5.45 | 20.19 | 14.34 |
| Магілёў – | 5.48 | 20.15 | 14.27 |
| Гомель – | 5.51 | 20.06 | 14.15 |
| Гродна – | 6.16 | 20.38 | 14.22 |
| Брэст – | 6.19 | 20.37 | 14.18 |

## МЕСЯЦ

**Маладзік 22 ЖНІЎНЯ**

**З 5.23 — 2-ія месяцавыя суткі.**
**З 7.22 Месяц — у сузор'і Дзевы.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Аляксея, Антона, Дзмітрыя, Івана, Марыі, Пятра, Якава, Лявонція, Юліяна**

**К. Цэзарыя, Марыі, Зігфрыда**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі навальніцы. Вецер паўднёва-заходні, умераны, удзень месцамі парывы да 15-20 м/сек. Тэмпература паветра ў Гродне — 16—18, у Брэсце і Віцебску — 17—19, у Мінску і Магілёве — 18—20, у Гомелі — 19—21 вышэй нуля.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам дажджы. Вецер заходні, умераны. Тэмпература паветра ўначы — 6—11, удзень — плюс 17—22 градусы.



*Віншуем дарагую сястрычку і любімую дачку* ***КАРАВУЛАВУ Алу*** *з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і ўсяго самага найлепшага.*

**Сястра Вольга, бацькі, в. Галынка.**

*Дарагую, родную, любую* ***Алену Іванаўну ЯНЧЫК*** *з г. п. Гарадзея віншуем з 55-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, добрага настрою.*

**Муж, сын, нявестка, унучкі Маша, Галя.**

Пенсійнае пасведчанне № 265644, выдадзенае на імя Сідорык Людмілы Міхайлаўны, лічыць **несапраўдным.**

I па календару, і па надвор'і час няўмольна набліжаецца да восені. Як бы трывіяльна і зашмальцавана не гучала, але падыйшла пара ўсур'ёз падумаць над тым, чым мы будзем жыць, у прамым сэнсе гэтых слоў, зімой. Як паведамілі рэдакцыі ва ўпраўленні арганізацыі спажывецкага рынку харчовых тавараў Міністэрства гандлю, у мэтах бесперабойнага забеспячэння насельніцтва прадуктамі жывёлагадоўлі ў міжсезонны перыяд 1998-1999 гадоў, рашэннем калегіі міністэрства яшчэ ў маі тэрытарыяльным органам кіравання гандлем і мінскім холадакамбінатам былі ўстаноўлены аб'ёмы закладкі масла — 9,3 тысячы тон, і цвёрдых сыроў — 0,9 тысячы тон.

Для аказання фінансавай падтрымкі мінскім холадакамбінатам і перапрацоўчым прадпрыемствам Мінска, якія ствараюць найбольшыя запасы, яшчэ ў пачатку ліпеня была прынята пастанова Савета Міністраў «Аб стварэнні запасаў прадуктаў жывёлагадоўлі». Ёю таксама былі вызначаны аб'ёмы назапашвання: для мінскіх холадакамбінатаў масла — 5,5 тысячы тон, цвёрдых сыроў — 0,8 тысячы тон; для перапрацоўчых прадпрыемстваў сухога малака — 6,5 тысячы тон, тварагу — 1,2 тысячы тон. У адпаведнасці з пастановай закладку неабходна правесці да 1 лістапада.

Прадпрыемствы гандлю яшчэ з ліпеня распачалі закладку прадуктаў жывёлагадоўлі. Па стану на 18 жніўня аптовымі прадпрыемствамі гандлю краіны назапашана 4,8 тысячы тон масла ( акрамя таго 200 тон закладзена прадпрыемствамі спажыўкааперацыі) ці 52 працэнты да задання, якое было зацверджана калегіяй Мінгандлю, сыроў — 0,74 тысячы тон, ці 82 працэнты, у тым ліку мінскімі холадакамбінатамі закладзена масла — 3,7 тысячы тон, сыроў — 0,67 тысячы тон, ці 67 і 84 працэнты да задання адпаведна. Прадпрыемствамі прамысловасці Мінска закладзена 3,8 тысячы тон сухога малака, 0,6 тысячы тон тварагу, ці 58 і 50 працэнтаў да задання адпаведна.

Пракаменціраваць гэтыя лічбы больш падрабязна, а таксама адказаць на шэраг іншых пытанняў «Звязда» папрасіла прэс-сакратара Міністэрства гандлю Вячаслава ЛЯВОНАВА.

*ХАРЧОВАЯ БЯСПЕКА*

## ЗАКЛАДКА ПРАДУКТАЎ ХАРЧАВАННЯ НА МІЖСЕЗОННЫ ПЕРЫЯД ГАРАНТУЕ,

# ШТО НАСЕЛЬНІЦТВА НЕ АДЧУЕ НІЯКІХ ПРАБЛЕМ З КОЛЬКАСЦЮ І АСАРТЫМЕНТАМ ГЭТЫХ ТАВАРАЎ

**— ВЯЧАСЛАЎ КАНДРАЦЬЕВІЧ, чаму такі вялікі запас прадуктаў харчавання на міжсезонны перыяд робіцца менавіта ў Мінску?**

— Запасы заўсёды фарміраваліся асобна ў кожнай вобласці. Аднак, з аднаго боку, улічваючы, што сталіца — вялікі горад, насельніцтва якога складае звыш 1 мільёна 600 тысяч чалавек, бадай, як насельніцтва цэлай вобласці, і, натуральна, адна Мінская вобласць не ў стане задаволіць сваімі рэсурсамі яго патрэбы ў частцы спажывання такіх прадуктаў, як масла і мяса, вялікія запасы з агульнарэспубліканскай долі рэгулярна ствараюцца на мінскіх холадакамбінатах. З іншага боку, як паказвае практыка, сталічныя холадакамбінаты нярэдка выручаюць і вобласці. Былі выпадкі, калі вобласці пралічваліся па тых параметрах, якія самі ж сабе і закладвалі, тады і выручалі мінскія холадакамбінаты сваімі запасамі. Гэта сістэма адпрацаваная, надзейная, і, як сведчыць жыццё, патрэбная.

**— Іншымі словамі, хвалявацца наконт таго, што могуць быць перабоі з забеспячэннем тымі ці іншымі харчовымі таварамі, не варта?**

— Летась перабояў практычна не было, у прыватнасці, па мясапрадуктах. У асобных рэгіёнах не хапала сыроў. Мы не разлічвалі, што рост тавараабароту, рэалізацыі, будзе так павялічвацца. Натуральна, гэта адбілася на асартыменце. Таму сёлета, каб пазбегнуць колішніх пралікаў, сыроў, тварагу плануецца закласці на захоўванне ў два разы больш, чым летась. Улічваючы, што перабоі былі не па колькасці гэтых прадуктаў, а па асартыменту, такая колькасць назапашаных сёлета прадуктаў дазволіць не толькі не дапусціць ніякага дэфіцыту, але і стварыць багаты асартымент у магазінах. Акрамя таго, павялічана планавае заданне па сухому малаку. Калі ў 1997 годзе яно складала 5300 тон, дык сёлета — 6500 тон. Не сакрэт, што ўсё малако ў міжсезонны перыяд выпрацоўваецца менавіта з сухога канцэнтрату. Відавочна, што з такімі запасамі пра перабоі ўвогуле гаварыць не даводзіцца. Па такой пазіцыі, як масла, таксама нас ніхто не можа папракнуць, што яго летась не хапала. І тым не менш заданне па маслу сёлета павялічылася. Калі ў 1997 годзе план быў у 8920 тон на ўсю краіну, дык зараз — 9310 тон.

**— Як вы самі заўважылі, сёлета на міжсезонны перыяд назапашваецца значна большая колькасць прадуктаў харчавання, чым летась. Скажыце, гэта не адаб'ецца адмоўна на цяперашнім унутраным рынку?**

— Не, гэта зусім розныя каналы паставак, і ніколі не ставілася пытанне, каб за кошт скарачэння нейкіх паставак у гандлёвую сетку ствараць запасы. Чаму менавіта ў гэты час яны ствараюцца? Гэты сезон дазваляе, не змяншаючы паставак у гандлёвую сетку, лішкі, якія немагчыма проста перапрацаваць, накіраваць на захоўванне.

**— Прабачце, але мяса птушкі і свініны не хапае на прылаўках, прынамсі, сталічных магазінаў, ужо даволі працяглы час. А тут яшчэ нарыхтоўкі... Ці не пацерпіць ад гэтага ўсё той жа ўнутраны рынак цяпер?**

— Гэтая праблема, на жаль, застаецца, але яна вырашальная. Што датычыць свініны, гэта хранічная праблема, гэта не сакрэт, што нас не забяспечваюць ёю. Тут шмат фактараў — і эканамічныя, і тэхнічныя, і цэнавыя, таму я б сказаў так — сапраўды, недзе свініны не хапае. Але гэта можна кампенсаваць іншымі мясапрадуктамі. Таму, нават калі ў нас ёсць недахопы па асобнаму віду паставак, мы іх кампенсуем іншымі прадуктамі. Напрыклад, калі ў канцы вясны гараджане пачалі скардзіцца на недахоп вараных каўбас, а гандаль, зазначу, прадае тое, што прапануе прамысловасць, літаральна за кароткі перыяд былі павялічаны пастаўкі мяса на нашы мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы. Па Мінску асартымент каўбасных вырабаў, у тым ліку вэнджаных і паўвэнджаных, змяніўся на 65 працэнтаў. Чаму гаворка ідзе пра Мінск? Таму што дэфіцыт вараных каўбас назіраўся толькі ў сталіцы. Зноў жа з-за таго, што ў кожнай вобласці свае рэсурсы, а Мінск іх проста «з'еў». Мінсельгасхарч, прамысловасць выканалі пастаўкі практычна цалкам, але мы бачым, які ідзе рост тавараабароту. І ўсё, што было пастаўлена прамысловасцю, было рэалізавана больш хуткімі тэмпамі, чым мы чакалі. Таму і ўзнік на пэўным этапе разрыў паміж попытам і асартыментам у магазінах. Тым не менш, пасля наведвання асобных гандлёвых кропак прэзідэнтам, было дадзена заданне, і пайшлі насустрач сталіцы — былі павялічаны пастаўкі на мінскія мясакамбінаты менавіта мяса, у выніку чаго на прылаўках і з'явілася вараная каўбаса. Прычым, не проста з'явілася, а яшчэ раз падкрэсліваю, асартымент змяніўся на 65 працэнтаў ад агульнага асартыменту.

**— Хачу яшчэ раз удакладніць. Летась таксама назапашвалі прадукты, але потым высветлілася, што сёе-тое з'елі «раней часу». Ці не паўторыцца гэта сёлета?**

— Напрыклад, па ялавічыне ў нас ніколі праблем не было. Ды і дэфіцыту свініны ў цэлым па краіне таксама не было. Напрыклад, у той жа Гродзенскай вобласці, у іншых абласцях таксама — недзе забяспечанасць складала 40 працэнтаў, дзесьці 50 ці 60 працэнтаў. Але там, дзе быў недахоп свініны, мы кампенсавалі яго пастаўкамі ялавічыны.

**— Наконт асартыменту. Якраз пасля згаданага вамі дэфіцыту і далейшага пашырэння асартыменту тых жа каўбасных вырабаў у сталіцы, я заўважыў адну цікавую рэч. На свае вочы бачыў у вітрыне магазіна тры гатункі рознай, па назве, варанай каўбасы, але па аднолькавым кошце, здаецца, тады па 98.200 рублёў за кілаграм — «Славянская», «Казанская» і яшчэ нейкая. Наколькі гэты асартымент адрозніваецца па нейкіх смакавых якасцях, акрамя назваў?**

— Рэцэптуры ўсе распрацоўваюцца, яны зацверджаны. Ёсць строгія стандарты пад кожную рэцэптуру — чым каўбаса можа адрознівацца. Не трэба забывацца, што кожны мясакамбінат мае нейкія свае фірменныя вырабы. Нам можа падавацца, што розніцы няма, аднак, калі глядзець дакладна тэхналагічна, дык розніца ёсць.

**— У асобных сродках масавай інфармацыі прамільгнула інфармацыя аб тым, што ў Беларусь нібыта збіраюцца пастаўляць імпартнае мяса, якое будзе каштаваць каля 400 тысяч рублёў за кілаграм...**

— Мяне вельмі здзівіла, калі ў нашай беларускай газеце, няхай і недзяржаўнай, з'явілася такая інфармацыя з лічбамі са «столі». Я разумею жаданне журналіста зрабіць сенсацыю, але ёсць яшчэ і элеметарная добрасумленнасць. Ні аб якім мясе па 400 тысяч рублёў не можа ісці і гаворкі.

**— Іншымі словамі, гэтая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці?**

— Не стаіць такой вострай неабходнасці тэрмінова ўвозіць мяса з-за мяжы. На сённяшні дзень наша айчынная прамысловасць у стане задаволіць патрэбы краіны. Паўтаруся, ідзе натуральны працэс закладкі харчавання на міжсезонны перыяд.

**— А што з рыбай? Як ідуць яе пастаўкі ў краіну, у прыватнасці, зараз?**

— Мы ніколі не хавалі, што рыбнай вытворчасцю мы не займаемся. Яна завозіцца, гэта так званы тавар крытычнага рынку. Тым не менш ніхто не скажа, што ў магазінах няма морапрадуктаў. Так, цэны залежаць ад курсу долара, бо закупліваецца яна за валюту. Рыба ніколі не закладваецца на доўгатэрміновае захаванне. Купіць яе не праблема, былі б грошы. Тут мы праводзім палітыку, якая адначасова дазваляе абараніць ад дэфіцыта спажыўца, і ў той жа час не дазволіць цэнам імкліва «ўзляцець». Зразумейце, тым, хто ажыццяўляе закупкі, нявыгадна набываць рыбапрадукты па максімальным кошце, каб потым тут не знайсці пакупніка, рэалізаваць іх.

**— Цяпер наконт мяса птушкі. У свой час гучалі лібы, нават такія, як 80 працэнтаў, што пастаўляюцца за межы краіны ў абмен на «жывую» валюту. Напэўна, так патрэбна, але ці хутка мы будзем есці айчыннае мяса птушкі? Мяркуючы па прылаўках, з вясны яго дабавілася няшмат...**

— Па мясу птушкі мы выйшлі са становішча, заключыўшы кантракты на пастаўку імпартных курыных кумпячкоў. Сапраўды, недапастаўка па мясу птушкі ў нас таксама хранічная. Таму мы і пайшлі на закупку імпартнай прадукцыі. Справа яшчэ і ў тым, што «Белптушкапрам» большую частку прадукцыі рэалізуе праз фірменныя магазіны. Але гэта па дакументах. Ці дайшла прадукцыя да насельніцтва, ці гэта толькі прыкрыццё, каб зрабіць пастак і на іншы спажывецкі рынак, мы не ведаем.

**— Зыходзячы з гэтых слоў, «Белптушкапрам» папранейшаму будзе прадаваць на замежжа, зарабляючы няхай і такую патрэбную краіне валюту, а мы будзем «душыцца» замежнымі курынымі кумпячкамі, якія «гоняць» да нас з многіх краін свету?..**

— Калі прадукцыя «Белптушкапрама» прынясе нашмат больш валюты дзяржаве, чым яна выдаткуе на набыццё тых жа курыных кумпячкоў, і на гэтую валюту краіна закупіць энерганосьбіты, іншыя неабходныя тавары, няўжо гэта дрэнна? Я не лічу, што гэта дрэнна, калі ад нейкай камерцыйнай здзелкі ў цэлым наша краіна атрымае прыбытак. Сапраўды, на курыныя кумпячкі мы затрацім менш валюты, чым на закупку тых жа самых кармоў за межамі Беларусі. Што да бяспекі... Існуюць вельмі строгія стандарты на ўсе тавары і асабліва на харчовыя. Я хачу падкрэсліць, што санітарна-гігіенічныя стандарты, якія існуюць у рэспубліцы на харчовыя тавары, больш строгія, чым на Захадзе. Таму на наш рынак не можа трапіць няякасная прадукцыя, гэта выключана. Тут наладжаны вельмі строгі кантроль, таму што гэта не толькі харчовая бяспека краіны, але і бяспека насельніцтва.

**— Акрамя тавараў, якія назапашваюцца на доўгі тэрмін, трэба думаць і пра тое, што будзе патрэбна на бліжэйшы час. Як ідуць справы з закупкай рысу, алею, тытуню, кавы, чаю?**

— Гэта тавары крытычнага рынку, якія закупляюцца за валюту за межамі краіны. Доўгі час такія вырабы захоўваць нельга.

**— Значыць, праз нейкі час, напрыклад, праз месяц, такія тавары давядзецца набываць зноў, але па новых цэнах, бо курс долара апошнім часам расце?**

— Так, калі нічога не зменіцца, так і будзе. Але адначасова я хачу нагадаць аб рашэнні прэзідэнта наконт двух працэнтаў інфляцыі. Вось паказваю вам міністэрскую зводку сярэдніх цэнаў на харчовыя тавары па Беларусі, як яны змяніліся за апошні час. На асноўныя харчовыя тавары, вы бачыце, і гэта па ўсіх абласцях, ніякіх зрухаў апошнім часам няма.

**— На заканчэнне яшчэ такое пытанне. Як вядома, апошнія дні былі для многіх пакупнікоў азмрочаны тым, што ў камерцыйным гандлі значна ўзраслі цэны. Відавочна, што гэта элементарная спекуляцыя, калі разам з улікам растучага курсу долара гандляры закладваюць яшчэ і пэўны «запас», як кажуць, на ўсялякі выпадак. Ці будзе міністэрства або нейкае іншае ведамства прадпрымаць пэўныя захады па стабілізацыі сітуацыі? Вядома, наколькі гэта магчыма ў дачыненні да недзяржаўнага гандлю... Бо зараз, напрыклад, па асобных таварах утварылася сітуацыя, калі яны ў дзяржгандлі танней, чым у камерсантаў. Зразумела, людзі будуць скупліваць аналагічную прадукцыю найперш у магазінах. Адсюль недалёка і да ажыятажу, пасля якога паліцы магазінаў могуць апусцець...**

— Кантроль мы ажыццяўляем за ўсім гандлем незалежна ад формы ўласнасці. Сапраўды, ёсць пэўная трывога. Але для гэтага найперш існуюць адпаведныя ўстановы — той жа Нацбанк, які павінен адсочваць сітуацыю, Мінэканомікі... Я ўпэўнены, яна разглядаецца, але Міністэства гандлю не можа самастойна паўплываць на сітуацыю. Калі на вышэйшым узроўні будзе прынята рашэнне, мы яго толькі падтрымаем і прымем адпаведныя меры.

**— Дзякуй за размову.**

**Гутарыў**
**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*УСЁ ПРА ЎСЁ*

## МАРЫНАД СУПРАЦЬ РАКА?

Усе ведаюць, што перасмажваць мяса на агні з утварэннем чорнай коркі шкодна: утвараюцца канцэрагенныя рэчывы. І ... працягваюць атрымліваць асалоду ад грыля, таму што гэта вельмі апетытны і захапляючы занятак.

Марк Кніз з калегамі з Ліверморскай нацыянальнай лабараторыі ў Каліфорніі прыйшлі да высновы, што пагрозу можна істотна знізіць, калі перад смажаннем мяса замарынаваць. Для марынаду яны выкарыстоўвалі сумесь аліўкавага алею, воцату, цукру, лімона, гарчыцы і часнаку. Калі трымаць мяса на агні не больш як 20 хвілін, то гетэрацыклічныя аміны ў ім утвараюцца ў 10 разоў меней, чым без марынаду.

Праўда, даследчыкі прызналіся, што не разумеюць, чаму так адбываецца, і актыўна вывучаюць розныя марынады на прадмет іх ахоўных уласцівасцей. А нам застаецца толькі захапляцца мудрасцю горцаў, якія шмат стагоддзяў марынуюць шашлык і ні ў якім разе яго не перасмажваюць.

## «УРА» АРЭХАМ!

Англійскія дыетолагі на працягу 13 гадоў наглядалі за тысячамі вегетарыянцаў, паўвегетарыянцаў і мясаедаў. Яны лічаць, што ў тых, хто з'ядае па 2—3 арэхі на дзень (фундук, арахіс), значна больш шанцаў пражыць доўгае і здаровае жыццё, чым ва ўсіх астатніх. У арэхах шмат неабходных для арганізма кіслот, вітаміна Е і антыаксідантаў. Галоўнае, не перастарацца ў сваім імкненні да доўгажыхарства, паядаючы іх кілаграмамі.

## ЛЕПШЫ ЧАС:

для прыёму вітамінаў — сняданак, таму што многія з іх, асабліва А, Д і Е, лепш засвойваюцца, калі страўнік толькі «прыступіў да работы»;

для засваення вугляводаў — пасля фізічных нагрузак: у гэтым выпадку яны не ператвараюцца ў тлушчавыя адклады;

для нядзельнага абуджэння — усяго на гадзіну пазней, чым у працоўныя дні: інакш біялагічны гадзіннік саб'ецца і ў панядзелак вы абавязкова праспіце;

для гарачай ванны — за гадзіну-дзве да сну, бо лепш астыць крыху — прыемны і хуткі сон наступае толькі пасля натуральнага зніжэння тэмпературы;

для дзённага сну — паміж гадзінай — трыма; у гэты прамежак часу тэмпература цела крыху падае і заснуць значна лягчэй, чым у іншы час дня.

**Па матэрыялах друку склала**
**Вікторыя КЛЯНОВІК.**

*Жніво-98*

# АРМІЯ — САЮЗНІЦА СЯЛА

Калі ўзяць карту нашай рэспублікі і абазначыць умоўнымі каляровымі значкамі населеныя пункты, дзе працуюць ваеннаслужачыя, атрымаецца прываблівы малюнак. Вось некаторыя толькі прыклады з месцаў. У калгасах «Свіслач» і «Пухавічы» Пухавіцкага раёна асабовы склад брыгады спецназа каля месяца ўбірае ўраджай, складзіруе сена і ліквідуе вынікі нядаўняга ўрагана. На збожжатаках калгасаў «Астраметчава» і «Дамачава» Брэсцкага раёна працуюць воіны-дэсантнікі Брэсцкай мабільнай брыгады. Штодзённа ўбіраюць лён на эксперыментальнай базе «Вольна-Чарніхава» Баранавіцкага раёна воіны зенітна-ракетнага злучэння, якім камандуе палкоўнік Анатоль Пупко. У Шчучынскім раёне на доследнай станцыі «Руткевічы» ўбіраюць бульбу салдаты і сяржанты авіяцыйнай школы малодшых авіяцыйных спецыялістаў. Саўгасу «Жыжова» Полацкага раёна выдзелены асобны склад і аўтамабільная тэхніка для перавозкі збожжа. Гвардзейцы 120 мотастралковай дывізіі паказваюць прыклад працавітасці і любові да сваёй зямлі ў калгасах імя Купрыянава і Мічурына Чэрвеньскага раёна, саўгасе «Бальшавік» Мінскага раёна, калгасе імя Леніна Смалявіцкага раёна. Сямёра служачых Узброеных Сіл Фаніпальскай зенітна-ракетнай брыгады Уладзімір Роткін, Віктар Пілатовіч, Уладзімір Салаўёў, Мікалай Прасмыцкі, Іосіф Залатар, Мікалай Сяўрук і Мікалай Сухавараў працуюць камбайнерамі ў саўгасе «Камсамолец» Дзяржынскага раёна. У калгасе імя Леніна, К. Маркса, «Зара», «Лоск» Валожынскага раёна ўбіраюць збожжа воіны мясцовага радыётэхнічнага злучэння.

Гэту статыстыку можна яшчэ працягваць доўга. Кожны свой рабочы дзень генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў пачынае з разгляду зваротаў кіраўнікоў рознага рангу. Удзел ва ўмацаванні харчовай бяспекі краіны ўзмацняе і саму армію, яе тыл. Дапамога вёсцы — яркае сведчанне таму, што армія неад'емная частка беларускага народа.

Нельга думаць, што пад прычынай дапамогі вёсцы зніжаецца ўзровень падрыхтоўкі Узброеных Сіл. Не. Штодзённа, каля 10 тысяч ваеннаслужачых нясуць баявое дзяжурства, караульную, унутраную і іншыя розныя віды службы. Ідзе планавая баявая вучоба ў войсках. Радыётэхнічныя і зенітна-ракетныя падраздзяленні войск ППА на расійскім палігоне пад Астраханню рыхтуюцца да баявых стрэльбаў. Танкавыя падраздзяленні 120-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі вучацца на рацэ Беразіне пераадольваць водную перашкоду па дну ракі. У вучэбныя цэнтры выйшлі часці і падраздзяленні хімічных і інжынерных войскаў. Больш за 3 тысячы ваеннаслужачых праз некалькі дзён пачнуць заняткі ў вучэбных часцях Узброеных Сіл. На наступным тыдні артылерыйскія злучэнні і часці выйдуць у палявыя лагеры для правядзення тактычных вучэнняў і баявых стрэльбаў.

**Палкоўнік Леанід ПРЫШЧЭПА, прэс-служба Міністэрства абароны.**

**Напэўна, кожны, нават самы нецікаўны чалавек, хоць раз у жыцці задаваў сабе пытанне: а што значыць маё імя і прозвішча? З імёнамі лягчэй: яны, ужывальныя ў розных краінах (праўда, у адметнай фанетычнай афарбоўцы), даўно ўжо патлумачаныя і кожны мае магчымасць даведацца пра значэнне свайго, зазірнуўшы ў першы адрыўны каляндар, які трапіў пад руку. А вось прозвішчы... Некаторыя пакутуюць ад іх усё жыццё, іншыя, наадварот, ганарацца. Але, аказваецца, зусім не значыць, што ў Балвановіча продкі былі дурнямі, а продкі Уродзічаў — непрыгожымі. Няма чаго апускаць галаву і Нелюбам, Нялепам, Дурылавым. Хутчэй наадварот.**

# СКАЖЫ, ЯК ТВАЁ ПРОЗВІШЧА, І Я СКАЖУ, ХТО ТЫ?

Прозвішчы з'явіліся на Беларусі ў 16—17 стагоддзях. Раней продкі абыходзіліся імёнамі. Праўда, часам не адным, а нярэдка такімі дзіўнымі... Хадзілі па нашай зямлі **Лапаты, Граблі, Бочкі**. Сучасныя **Лапаціны, Граблюкі, Бачкарэнкі** — іх нашчадкі. Нярэдка бацька-рыбак, нядоўга думаючы, мог назваць сыноў **Акунём, Карасём**, а дачку проста **Рыбкай.** А калі на двары бегае столькі жыўнасці, навошта мудрагеліць з імёнамі для немаўлят? Так і з'явіліся **Казлы, Бараны, Сабакі**. Нашчадкі якіх, канешне ж, пасля дзеля мілагучнасці сталі звацца **Казловічамі, Баранавымі, Сабакевічамі**... Праўда, наўрад ці сёння **Пырко** здагадаецца, што калісьці продка назвалі проста «курачкай», **Гаргарыны** і не падумаюць, што «гаргарамі» называлі асабліва вялікіх кароў і коней, а **Кундалевічы** не ведаюць, што «кундалем» звалі калматага сабаку...

Іншыя бацькі рабілі яшчэ мудрэй: каб не збіцца з ліку, называлі дзяцей па парадку: старэйшы — **Бальшак**, трэці — **Трацproperly**, шосты — **Шастак**. Адзінае дзіця ў сям'і — тут і імя адпаведнае: **Адзінец**. А калі позняе ў састарэлых ужо бацькоў, нечаканае — **Пазняк**...

■

Калі ж хрысціянства канчаткова замацавалася на нашай зямлі, і дзецям пры хрышчэнні сталі даваць імёны, запісаныя ў святцах, доўгі час існавала традыцыя даваць нованароджанаму яшчэ адно імя. Прычым зусім не мілагучнае: **Дурань**, **Чумак** (дуркаваты чалавек), **Чорт**, **Вядзьмак**. Такое імя, лічылася, ахоўвае лепш за ўсякі абярог: яно адцягвае на сябе нячысціка, і ўсе магчымыя беды і непрыемнасці, якія наканаваны чалавеку, забірае на сябе. Лінгвісты цяпер ламаюць галовы: а можа, Сталін змог падпарадкаваць сабе вялізную краіну, дзякуючы прозвішчы-абярогу (яго сапраўднае прозвішча Джугашвілі паходзіць ад асецінскага «джуга» — «адкіды»).

Бацькі, у якіх дзеці часта паміралі, пры нараджэнні немаўляці, спрабуючы падмануць смерць, называлі яго, нібы адмаўляючыся: **Нянаш, Нялюб, Нялеп** (непрыгожы), **Нязнам**. Таксама своеасаблівы абярог.

■

Узнікшая патрэба ў прозвішчах (з'яўлялася ўсё больш пісьмовых дакументаў, і блытаніны не павінна было існаваць) задавальнялася па-рознаму. Прыпомніліся і тыя дзіўныя імёны, якія з цягам часу ператварыліся ў мянушкі цэлага роду, і тыя дзівацкія «абярогі». З'явіліся шматлікія прозвішчы ад імені бацькі. Ці мала ходзіць у нас **Пятровых, Сідаровічаў, Іваноўскіх**. Бацька быў **Лукаш** — з'явіліся **Лукашэвічы** і **Лукашэнкі**, **Пракоп** — **Пракаповічы** і **Пракопавы**. Каб даведацца паходжанне падобных прозвішчаў, дастаткова ведаць, што значыць імя. Атрымаецца, што **Пятровы** фактычна «аднафамільцы» **Каменевых** (Пётр — «камень»), **Леанідавы** — **Львовічаў** (Леанід — «сын ільва»), **Лукашэнкі** — **Святловых** і **Святловічаў** (Лукаш — Лука — «светлы»).

Многія атрымалі прозвішчы па роду сваіх заняткаў: **Каваль, Ганчар, Бандарэнка, Залатар**. Але не трэба забывацца, што прайшлі стагоддзі, таму **Возны**, **Вазновіч** — зусім не значыць «рамізнік», так нашы продкі звалі служыцеля, які ў старажытны час замяняў выканаўчую паліцыю.

Нямала прозвішчаў паходзіць і ад мянушак, якія даваліся чалавеку па яго якасцях: п'яніца — значыць, **Зюзь**; касавокі — **Зізіка**; гучна гаворыць — **Гаркун**; высокі і худы — **Бамбіза**; смуглы з твару — **Мазепа**; любая справа ў руках гарыць — **Кебіч**; усім падабаецца — **Спадабай**; ходзіць шпарка, шырокімі крокамі — **Хадыка**.


Магчыма, воз кладуць Мажары

■

Некаторыя прозвішчы нясуць у сабе інфармацыю аб тых прыладах працы, якія цяпер па-іншаму называюцца, а многія зніклі наогул. Водапад'ёмнае прыстасаванне для паліву садоў рускія называлі **Чыгір**. **Шэйма** — якарны канат. **Бушмар** — драўляны молат, якім выбіваюць гліняную печ; **Лінг** — па-літоўску — «рысора»...

А ёсць прозвішчы, якія здаюцца нам зразумелымі, але продкі зусім не тое мелі на ўвазе. Так, **Гаркавы** не мае ніякага дачынення да слова «горкі», бо калісьці так называлі картавага чалавека. Гэтаксама як **Кобрык** не мае нічога агульнага з ядавітай змяёй, бо «кобра» — па-руску азначае «прыгаршчы». Продкі **Мажары** былі зусім не ўсемагутнымі, хутчэй непаваротлівымі і тоўстымі, «мажара» — бухматы воз. **Рыцікі** нічога не рылі: так звалася месца, дзе растуць грыбы, а **Бухарыны** маглі быць самымі цвярозымі, бо прозвішча не ад «бухаць», а ад «бухара» — «чмель, пчала». **Паловікавы** — не дзялілі нічога напалову: паловік — нявеенае збожжа. **Уроднічы** несумненна былі прыгожымі, бо слова «ўродны» мела значэнне «статны, высокі». А «балван» — па-кіргізску — «воін», так што ў **Балвановічаў** няма падстаў саромецца свайго прозвішча.

■

Ёсць прозвішчы, якія можна тлумачыць па-рознаму. Калі ваша прозвішча **Глод**, а продкі вашы з Украіны, хутчэй за ўсё, яны мелі дачыненне да глогу, а калі з Польшчы — пэўна, галадалі. «**Батура**» — на Беларусі звалі пустамелю, у Расіі — вежу або ўпартага чалавека, на Украіне — вялікі бізун. «**Глоба**» ў беларусаў — правінцыйны саноўнік ці грашовы штраф, у рускіх — перакладзіна, у ўкраінцаў — сцежка, у літоўцаў — абарона. Як кажуць, выбірайце, што каму больш даспадобы...

А вось **Шараметы** і **Шарамецьевы** выбару не маюць, бо варыянт толькі адзін, дый той нянаскі: па-турэцку «шарамет» — жвавасць, гарачнасць каня. Гэтаксама як **Агальцы** і **Агальцовы**: «оголец» па-руску — хлапчыска, свавольнік. А незразумелае, але такое, здавалася б, роднае, наша — **Кечык** паходзіць ад татарскага «маленькі»...

Калі ж славянскія прозвішчы трапляюць у іншае асяроддзе, з імі адбываюцца дзіўныя пераўтварэнні: **Антонышавы** становяцца ў Канадзе Інтанэйшанамі (па-англійску — «інтанацыя»), **Макагоны** (з украінскага: «той, хто гоніць гарэлку з маку») — Мак-Магонамі (па-шатландску — «сын магутнага»). Зрэшты, і славяне ў даўгу не засталіся: перахрысціў жа Пётр I немца **Гарраха** ў **Гароха**. Француз Шэрак вельмі хутка стаў бы на Беларусі **Шараком**, і ніхто б не здагадаўся, што ён не мае ну ніякага дачынення да шэрага колеру. Гэтаксама як амерыканец **Чаплін** не мае нічога агульнага ні са словам «чапляць», ні з «чапляй», і ўжо дакладна не аднафамілец нашых **Чапліных** і **Чаплінскіх**...

■

А ў народзе кажуць: як назвалі, так і пражывеш. Але калі імя сваім дзецям мы можам выбраць самі, то прозвішча проста перадаём ім у спадчыну, як і самі атрымалі ад сваіх бацькоў. Адпавядаць яму, калі дакладна ведаеш яго значэнне, вядома ж, трэба. Калі прозвішча абазначае нешта добрае. Калі ж наадварот — забудзьцеся гэта «як назвалі — так і пражывеш»... Так назвалі вашага далёкага продка, з якім вы ну зусім не падобныя.

**Падрыхтавала Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*Пры напісанні былі выкарыстаны матэрыялы з «Комсомольской правды» і кнігі М. В. Бірылы «Беларуская антрапанімія».*

**На гэтым тэма не закрываецца. У наступны раз мы павядзём гутарку пра імёны на Беларусі.**

**Імя Навума Гальпяровіча чытачы нашай газеты не адзін раз чулі у перадачах Беларускага радыё, дзе амаль дваццаць гадоў ён адпрацаваў карэспандэнтам; акрамя таго, піша вершы (аўтар трох кніг) і літаратурна-крытычныя артыкулы; акрамя таго — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык»; акрамя таго, апошнім часам актыўна выступае і як празаік...**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**



*На конкурс "Звязды" і Саюза пісьменнікаў*

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Іншаземец

## Апавяданне

ПЕРШАГА ў сваім жыцці іншаземца я ўбачыў, калі мне было гадоў чатырнаццаць. Гэта цяпер негра ці в'етнамца можна сустрэць на кожным кроку, а адкуль было ўзяцца іншаземцу на ціхай полацкай вуліцы, дзе нават звычайны аўтамабіль выклікаў павышаную цікавасць нас, хлапчукоў...

Ён быў з даўгімі кучаравымі валасамі, у акуратных, не па-нашаму пашытых штанах, з сумкай праз плячо, з вялікім пярсцёнкам на пальцы. Гэта сёння я вызначыў бы, што перада мной не багач, а тады ён здаваўся прынцам з казкі.

Іншаземец быў з Канады і прыехаў ён, як казалі, да радні, бо маці ягоная, якую немцы ў вайну вывезлі ў Германію, сышлася ў лагеры з нейкім канадцам і засталася ў замежжы заўсёды.

Тады пра гэта гаварылі шэптам, бо любы іншаземец мог быць шпіёнам. Як пісалі ў кніжках, засылалі іх да нас беспяпынна. Тады мы да канадца блізка не падыходзілі, цікавалі толькі ззаду, калі ён вяртаўся па нашаму завулку з нейкай сваёй чарговай праходкі.

Дарэчы, гэты комплекс боязі іншаземцаў я адкрываў у сябе яшчэ доўга, нават калі вучыўся ва універсітэце і можна было папросту падысці да замежнага студэнта ў аўдыторыі, а то і завітаць у пакоі ў інтэрнаце. Але чамусьці не хацелася, бо казалі, што за ўсімі, хто хаўруснічае з гэтай катэгорыяй, устанаўліваўся пастаянны негалосны нагляд, і гэта было падобна на праўду.

Але нейкая таямніца незнаёмага жыцця, чужой мовы і звычаяў вабіла неадольна, і як забароненага плоду хацелася ўсяго гэтага пакаштаваць ці хаця б у нейкіх трызненнях пабыць тым жа самым элегантным і багатым канадцам, якога бачыў побач з нашымі нехлямяжымі п'янаватымі мужыкамі.

Да слова, гэтае жаданне потым прайшло, ды і, шчыра казаць, не ўсё пры блізкім разглядзе аказалася такім бліскучым і вабным, але і сёння жаданне прымерыць на сябе нейчы лёс і незнаёмае жыццё нене ды і мільгане ў душы.

Пасля першай сустрэчы з канадцам прайшло тры гады, я заканчваў школу, рыхтаваўся паступаць у інстытут замежных моў...

Было ўжо цёмна, і я вяртаўся ад сябра, з якім мы слухалі музыку. «Естадэй», — спявалі салодка «Бітлы», якіх бэсцілі ў газетах за іхнюю буржуазнасць і прадажнасць, — а мы горача спрачаліся, чаму ў нас няма такой музыкі і такіх спевакоў, і чаму на беларускай мове нельга спяваць хіты, як гэта робяць палякі ці чэхі.

Нядаўна прайшоў дождж, і наваколле было напоўнена лёгкім водарам першай клейкай лістоты і бэзу. На скрыжаванні пад няяркім святлом ліхтара стаялі дзве дзяўчыны. Я іх ведаў на выгляд, і яны мне падабаліся.

Можа, ад гэтага п'янага паветра, ад маладосці і радаснага прадчування хараства я раптам, неспадзявана для сябе, падыйшоў да дзяўчат і загаварыў, каверкаючы і ламаючы словы, падлажваючыся пад чуты не раз па радыё і ў кіно замежны акцэнт.

Прыдуманая легенда нарадзілася сама па сабе, неспадзявана і арганічна. Можа, ад гэтага яна здалася дзяўчатам цалкам праўдзівай. Я казаў, што прыехаў да брата, які жыве тут непадалёк, што мы з ім вельмі падобныя, бо нашы маці родныя сёстры, што мы жывём у Канадзе, хоць маці мая родам з тутэйшых мясцінаў.

— Ага, — радасна захаплялася меншая, бялявая, — праўда, Светка, такія падобныя, як блізняты! Я ведаю твайго брата, ён тут часта ходзіць.

Большая, Люда, таксама была ўзрадаваная нечаканай сустрэчай з іншаземцам. Яе цікавіла, дзе я вучуся ці працую, куды хаджу на танцы, якую машыну маю...

У разгар гэтай ідылічнай сцэны з-за павароту паказаліся хлапечыя постаці. Я адразу пазнаў Кораня, аднаго з мясцовых важакоў і яго хаўруснікаў — дужых, спрактыкаваных у вулічных разборках, і пад сэрцам нібыта нехта гірку павесіў.

— Корань, Корань, хадзі сюды! — наперабой зашчабяталі дзяўчаткі. — Іншаземец во. З Канады! Так цікава!

— Ну, што тут за іншаземец? — з ноткай пагрозы спытаў Корань, падыходзячы.

Сэрца затахкала недзе аж пад горлам.

— Ес, ес, — залепетаў я, не ведаючы, што рабіць.

— Ды які ж гэта іншаземец, — выгукнуў нехта з кампаніі. — Харош бакі заліваць! Гэта ж Лёнік з Караедні.

Усё скаланулася ў мяне ў сярэдзіне — пазналі. Сапраўды, наш раён называўся Караедняй, бо там быў лясны тэхнікум, і ўсіх, хто жыў побач, звалі караедамі, а ўсю нашу невялічкую вулічку — Караедняй.

Праз некалькі імгненняў я ўжо быў прыціснуты да сцяны трансфарматарнай будкі, і нечыя дужыя рукі ўчэпіста трымалі мяне.

Першая спакуслівая думка была: павініцца. Даруйце, маўляў, хлопцы, пажартаваў. Але неспадзявана для самага сябе я загаварыў... па-англійску. Вядома, як умеў. Не думаючы аб правільнасці вымаўлення, я горача і, галоўнае, хутка, пачаў пераказваць гісторыю, што толькі наплёў дзяўчаткам. Пот цуркамі цёк па спіне, голас сеў ад страху, але адступаць ужо было немагчыма.

Корань з цікавасцю глядзеў на мяне. Мы некалі вучыліся ў адной школе, хоць і ў розных класах, не раз сустракаліся і на вуліцы, і на дыскатэцы, і што я — гэта я, ён, па-мойму, не сумняваўся. Гэта яшчэ больш надала мне імпэту. І хоць за час свайго маналогу мяне пару разоў даволі балюча прыціснулі да сцяны, я не здаваўся. І на ўсе пытанні адно цвердзіў:

— Ай доўнт андэстэнд!

Здаецца, прайшла вечнасць.

— А, можа, ну яго, пацаны? Раптам сапраўды іншаземец,

— выгукнуў нехта.

— Ладна, іншаземец, скажы дзякуй, што мы сёння добрыя! — працадзіў Корань, — не пападайся толькі заўтра!

І пасля моцнага штуршка ў спіну я аказаўся на волі. Стараючыся не выдаць хваляванне, я нетаропка зрабіў некалькі крокаў, а потым, не вытрымаўшы, пабег. І правільна зрабіў, бо за спіной пачуўся топат ног. Але тут я ўжо быў на вышыні, бо бегаў заўсёды хутка і ведаў, што дагнаць мяне не ўдасца.

І праўда, тупат хутка заціх, і я крыху сцішыў крок, не ведаючы, гараваць мне ад здарэння, ці смяяцца.

Так, мая гульня, калі б была менш пераканаўчай, магла скончыцца для мяне значна горш. Зрэшты, як я зразумеў потым, любая гульня, бо лёс не любіць, калі яго выпрабоўваюць нават бязвіннымі жартамі.

У жыцці мне яшчэ пару разоў даводзілася іграць падобныя ролі, дзе вынік мог быць яшчэ больш небяспечны. Але той юначы дэбют, як бачыце, запомніўся надоўга. І калі я бываю на тым месцы, дзе адбывалася падзея, з сумам прыгадваю і дзяўчатак, і Кораня з сябрамі, як удзельнікаў і гледачоў свайго першага выхаду на сцэну.

- *По выніках работы за 1997 год ААТ «Белмасткераміка» ўзнагароджана пераходным вымпелам канцэрна «Белмясцпрам»*
- *ААТ «Белмасткераміка» — лаўрэат маніторынга прадпрымальніцкай дзейнасці Беларусі «Кампанія года-98» Крытэрыі конкурсу — лепшыя вынікі выкарыстання маркетынгу і рэкламы*
- *Каля паловы ўсёй керамікі, якая вырабляецца ў Беларусі, мае радашковіцкае паходжанне. Яе адрознівае традыцыйны нацыянальны стыль і адначасова сучасныя метады вырабу і дэкарыравання.*

## АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «БЕЛМАСТКЕРАМІКА»:

# АРЫЕНТАЦЫЯ НА СЯРЭДНЯГА ПАКУПНІКА



*Свяцільнік — упрыгожванне сучаснага інтэр'ера.*

**ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА**

**Прадпрыемства было створана ў 1940 годзе, адразу пасля вызвалення Заходняй Беларусі. Потым была вайна і зноў завод пачаў працаваць пасля выгнання гітлераўцаў. Тады яно называлася прамкамбінатам, выпускала разнастайную няхітрую прадукцыю — цэглу, простую мэблю, свечы, крэмы для абутку і нават калёсы для вяскоўцаў.**

**У 60-я гады пачынаецца больш вузкая спецыялізацыя, і паступова застаюцца два галоўныя віды дзейнасці: мэбля і выпуск бытавой керамікі. Апошнюю пачалі вырабляць у 1974 годзе.**

**У 1979 г. было створана Беларускае вытворчае аб'яднанне мастацкай керамікі. Галоўным прадпрыемствам прызначылі завод мастацкай керамікі з г. п. Радашковічы. У састаў аб'яднання ўвайшлі Івянецкі, Рэчыцкі заводы і Бабруйскі цэх мастацкай керамікі. На гэтым этапе спецыялізацыя і згуртаванне вытворчых сіл дазволіла павысіць эфектыўнасць і тэхнічны ўзровень вытворчасці, пашырыць асартымент і якасць прадукцыі, павялічыць яе аб'ём.**

**З 1995 года завод з'яўляецца ААТ «Белмасткераміка» і спецыялізуецца на выпуску мастацкай керамікі і славутых набораў мэблі для кухні «Вязынка».**

***Мікалай КЛАДАЎ, генеральны дырэктар «БЕЛМАСТКЕРАМІКІ»:***

## «НАША ПРАДУКЦЫЯ ПАТРЭБНА ЛЮДЗЯМ, І ТАМУ МЫ ЎПЭЎНЕНЫ Ў СВАЁЙ БУДУЧЫНІ»



НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД можа падацца дзіўным, як гэта дзве зусім розныя галіны вытворчасці — мэбля і кераміка ўжываюцца пад адным дахам? І вы ведаеце, яны не перашкаджаюць адна адной, абедзьве развіваюцца па свайму накірунку і маюць, на мой погляд, неблагія перспектывы.

А ў складаныя моманты, на якія вельмі багата постсавецкая рэчаіснасць, гэтыя галіны нярэдка выручалі калектыў прадпрыемства. Скажам, у цяжкі перыяд для мэблевай вытворчасці ад фінансавых непрыемнасцей нас выратоўвала кераміка. Калі здараліся непрыемнасці са збытам керамікі, то нам моцна дапамагала рэалізацыя нашых кухонных набораў «Вязынка». Так што я лічу спалучэнне гэтых дзвюх вельмі непадобных галін справай нармальнай.

Па беларускіх мерках наша прадпрыемства сярэдняе — 810 працуючых. Больш паловы — жанчыны. Калектыў дастаткова малады, але кваліфікаваны. Усе ўчасткі і падраздзяленні ўзначальваюць вопытныя адукаваныя спецыялісты, адказныя кіраўнікі. Асабліва хочацца сказаць пра нашых мастакоў, ад творчасці якіх у многім залежыць камерцыйны поспех таго ці іншага новага вырабу. Хаця мы і прадпрыемства мастацкай керамікі, але ў пераважнай большасці прызначэнне гэтых вырабаў утылітарнае — камплекты посуду, наборы для снедання, мачанкі, віна, каньяку, гаршкі для тушэння, чайна-кафейныя сервізы, гаршкі для кветак, іншых раслін, кубкі для піва, сувенірныя прыгожыя бутэлькі для фірменных гарэлак, напрыклад «Белавежскай», і многае іншае.

Мушу зазначыць, што за ўсе супярэчлівыя паслеперабудовачныя гады наша прадпрыемства не толькі не зніжала аб'ёмы вытворчасці, але і штогод іх нарошчвала, прыкладна на 8—10 працэнтаў. За гэты час мы не скарацілі ніводнага чалавека. Нам удалося зберагчы калектыў. І гэта, на маю думку, стала важнай умовай эканамічных здабыткаў прадпрыемства на працягу апошніх гадоў.

А калі ёсць калектыў у поўным сэнсе гэтага слова, то яму пад сілу складаныя праблемы. Цяпер для многіх беларускіх прадпрыемстваў самай важнай задачай з'яўляецца эканамічнае выжыванне. Сёння для нас, не пабаюся здацца вельмі самаўпэўненым, гэта пытанне ўжо знята з парадку дня. Зараз мы больш заклапочаны асваеннем новай канкурэнтаздольнай прадукцыі, пранікненнем на новыя рынкі, пошукам надзейных замежных партнёраў, укараненнем прагрэсіўных тэхналогій, новых матэрыялаў, фарбаў.

Агульнавядома, што сёння праблема не ў тым, каб вырабіць якасны тавар, а ў тым, каб яго хутка прадаць, не завальваць склады гатовай прадукцыяй. Таму імкнёмся своечасова рэагаваць на змены, нават самыя тонкія, кан'юнктуры рынку, прадбачыць узнікненне попыту на пэўныя віды керамічнай прадукцыі. Рабіць гэта цяжка, не хапае вопыту. Але мы разумеем: не навучымся гэтаму, разлічваць у глыбокай перспектыве на стабільна высокі збыт прадукцыі не варта. Удалым, на мой погляд, з'яўляецца супрацоўніцтва з усімі вядучымі лікёра-гарэлачнымі заводамі Беларусі. Яны зацікаўлены ў прыгожай, з нацыянальным каларытам керамічнай бутэльцы. Мы іх гэтую патрэбу задавальняем.

Работа ў рыначных умовах адкрыла для нас такую з'яву, як сезонны попыт. Раней мы па разнарадцы зверху дакладна круглы год пастаўлялі сваю прадукцыю ў розныя куткі СССР. Галоўным было выкананне плана. А за збыт — галава не балела. Цяпер мы адчуваем сезонныя ўсплёскі попыту на нашы вырабы. Гэта мы імкнёмся ўлічваць і мяняем асартымент у залежнасці ад пары года. Вясной папулярныя гаршкі для кветак, летам больш набываюць сувеніры, восенню-зімой лепш бяруць сервізы, посуд для тушэння мяса.

У гэтых умовах многае залежыць ад таленту, густу, інтуіцыі і майстэрства нашых мастакоў, якія распрацоўваюць новыя віды вырабаў. Яны першымі рэагуюць на патрэбы дня. І мне прыемна адзначыць, што з мастакамі нам пашанцавала. Іх трое — галоўны мастак Аляксей Паддубны, мастакі Аляксандр Багданаў і Леанід Грыцкоў.

Кожны гаспадар сочыць за дакладным выкананнем свайго бюджэту, незалежна ад яго велічыні. Мы ў сябе ўстанавілі жорсткае правіла — строга вытрымліваць яго расходную частку, не паддавацца ніякім спакусам. Напрыклад, неабгрунтаванаму эканамічна павышэнню зарплаты.

У нас аднойчы пэўная колькасць людзей перайшла на суседнее прадпрыемства, дзе больш плацілі. З часам там справы рэзка пагоршыліся, і прадпрыемства апынулася на мяжы банкруцтва.

Каб падобнае не здарылася з намі, мы ўстанавілі жорсткі рэжым эканоміі, лічым расходы і даходы, зарплата расце з ростам аб'ёмаў вытворчасці. Сёння ўдзельная вага зарплаты складае 20 працэнтаў ад аб'ёму вытворчасці. Узняўся ён на 50 працэнтаў, то на 50 працэнтаў вырасла і зарплата. Іншых метадаў яе росту мы не прымаем. Жыць трэба па сродках — залатое правіла.

Дарэчы, нядаўна мы выплацілі 13-ю зарплату за І квартал. Ёсць магчымасць 400—500 млн. рублёў расходаваць на гэтыя мэты.

Маглі б і больш. Але сёлета мы каля 3 млрд. рублёў затрацілі на тэхнічнае пераўзбраенне. Увогуле данай праблеме надаём першачарговую важнасць. Набылі новы «МАЗ». Ён пастаянна ў рэйсах на Расію. Па нашых падліках, машына сябе хутка акупіць. Неўзабаве набудзем два нямецкія вакуумныя прэсы, якія нам вельмі неабходны. Не пашкадавалі 400 мільёнаў на капітальны рамонт камернай печкі «Набер», якая выпрацавала свой рэсурс. Яе аднаўленне дазваляе нам павысіць якасць прадукцыі, знізіць затраты на электраэнергію. У бліжэйшых планах набыццё яшчэ дзвюх такіх печаў. А гэта немалыя грошы, аднак расходы з часам не толькі акупяцца, але і дадуць сур'ёзную эканомію энергіі і значны прыбытак.

Сярод замежных партнёраў галоўны — Расія. Нам вельмі патрэбны расійскія рублі, каб закупляць у Расіі неабходную нам сыравіну і працаваць далей.

Для развіцця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з расіянамі мы выкарыстоўваем розныя магчымасці, у тым ліку і даўнія сяброўскія сувязі раёнаў: Маладзечанскага з Каломенскім, што ў Падмаскоўі. Там, у Каломне, ёсць пчалярскі камбінат, які выпускае медавухі на аснове мёду, прапалісу і жэньшэню. Туды мы ўжо амаль чатыры гады пастаўляем свае бутэлькі ў немалых аб'ёмах.

Мы пераканаліся на ўласным вопыце — каб паспяхова працаваць з рэгіёнамі, трэба мець там сваіх прадстаўнікоў, якія б прасоўвалі інтарэсы нашых прадпрыемстваў, знаходзілі патэнцыяльных партнёраў, спажыўцоў. «Свае» людзі, ці дылеры, у нас ёсць у Маскве, Растове, Новакузнецку, Самары, Ніжнім Ноўгарадзе.

Расійскі рынак мы лічым вельмі перспектыўным, хаця апошнім часам мы туды трохі знізілі свае пастаўкі. Гэта, з аднаго боку, звязана з цяжкай фінансава-эканамічнай сітуацыяй, якую перажывае зараз Расія (адсюль і затрымкі з разлікамі), з другога — на нашу прадукцыю расце попыт у Беларусі. Амаль штодзень паступаюць заяўкі з просьбамі павялічыць квоты, аб'ёмы паставак для айчынных спажыўцоў. Бо магазіны ўжо за першую палову года распрадалі ўсе запасы нашых вырабаў. Гэта не можа нас, натуральна, не радаваць. Значыць, жыццё людзей становіцца лепшым, калі ў іх ёсць грошы на набыццё прыгожай керамікі.

Каб не залежаць поўнасцю ад расійскіх пастаўшчыкоў сыравіны, якія жорстка дыктуюць цэны, мы развіваем дзелавыя сувязі з іншымі краінамі, напрыклад з Чэхіяй. Там асобныя віды фарбавальнікаў, значна танейшыя, чым у Расіі, а па якасці і лепшыя. Што, зразумела, нас прываблівае. І мы мяркуем з чэхамі сур'ёзна супрацоўнічаць, і, верагодна, пастаўляць туды сваю прадукцыю, каб потым за атрыманыя ад экспарту грошы набываць неабходныя нам матэрыялы. Мы настойліва шукаем розныя іншыя шляхі і спосабы, у тым ліку і нетрадыцыйныя для ўсталявання кантактаў з новымі партнёрамі.

Мы ўдзельнічаем амаль ва ўсіх выстаўках, якія так ці інакш тычацца тэматыкі нашай вытворчасці. Выстаўка — гэта зручнае месца для набыцця новых спажыўцоў, пашырэння кантактаў. Удзел у падобных кірмашах дазваляе нам быць у курсе апошніх дасягненняў у нашай галіне, накірунках моды, ваганняў попыту і такім чынам не адставаць ад канкурэнтаў.

Асаблівую ўвагу на прадпрыемстве мы надаём сацыяльнай інфраструктуры. На нашым балансе 14 832 кв. м жылля, дзіцячы сад-яслі на 140 месц, пункт аховы здароўя. Да паслуг работнікаў прадпрыемства і жыхароў пасёлка два магазіны: у адным гандлююць прадуктамі харчавання, у другім — вырабамі мастацкай керамікі, іншымі прамысловымі таварамі.

У магазінах шырока выкарыстоўваецца вэксальная сістэма. Кожны работнік нашага прадпрыемства ў лік сваёй заробатнай платы можа набыць любыя тавары. Прычым гандлёвая нацэнка на іх значна ніжэй, чым у іншых магазінах г. п. Радашковічы. Таксама для работнікаў нашага прадпрыемства ўстаноўлены льготы на паслугі пральні самаабслугоўвання, выкананне заказаў на сталярныя вырабы, паслугі аўтатранспарту.

**Матэрыял падрыхтаваў Леанід ТУГАРЫН. Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



*Брыгадзір Святлана МАЗАЛЕЎСКАЯ.*



*Такая кухня спадабаецца любой гаспадыні.*



*Вялікім попытам карыстаюцца талеркі, упрыгожаныя разнастайнымі малюнкамі.*



*На адным з участкаў прадпрыемства.*

*ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ*

# Агародніна ў запас

***Сабраўшы добры ўраджай пладоў і агародніны з прысядзібнага ўчастка, важна ўсё своечасова перапрацаваць. Адзін з самых распаўсюджаных спосабаў перапрацоўкі — кансерваванне. Прапануем некалькі рэцэптаў, а таксама парады, як правільна захоўваць кансервы.***



## Перац салодкі ў таматным соку

На 1 л соку — 1 ст. лыжка солі і 2 ст. лыжкі яблычнага або сталовага воцату, або палову ч. лыжкі лімоннай кіслаты. Сок пракіпяціць. Перац (чырвоны або зялёны) парэзаць на буйныя кавалкі, бланшыраваць у кіпенні 3 хвіліны, астудзіць 1-3 хвіліны ў халоднай вадзе, улажыць у слоікі і заліць гарачым сокам. Пры слабым кіпенні паўлітровыя слоікі прагрэць 5-7, літровыя — 12 хвілін і закатаць. Па гэтаму рэцэпту можна рыхтаваць і марынаваны перац, але заліваць яго не таматным сокам, а марынадам: на 1 л вады — 1 ст. лыжка солі, 1,5 ст. лыжкі цукру. У літровыя слоікі пасля дабаўлення залівкі ўліць 3-5 ст. лыжак яблычнага воцату, або палову ч. лыжкі эсенцыі.

## Ружовая капуста

Летнюю капусту парэзаць квадратамі 3х3 , 4х4 см. Моркву і маладыя буракі аблупіць і парэзаць тонкімі скрылікамі. Капусту праслоіць агароднінай і тоўчаным часнаком, можна пакласці крыху сухога ці свежага зялёніва, пасля чаго заліць расолам, які кіпіць: на 1 літар вады — 1 ст. лыжка солі, 1 ст. лыжка цукру. Для вастрыні можна дабавіць чорнага молатага перцу. Зверху на расол наліць крыху алею. Трымаць пры пакаёвай тэмпературы 2-3 дні, затым захоўваць у халадзільніку. Капуста атрымліваецца прыгожага ружовага колеру, насычаная вітамінамі.

Такую капусту рыхтуюць у невялікай колькасці, паўтараючы засольванне некалькі разоў на працягу года.

## Памідоры ў яблычным соку

Памідоры аднолькавай спеласці (лепш браць бурыя і ружовыя) вымыць, пракалоць у месцы мацавання пладаножкі, пакласці ў слоікі. Двойчы заліць кіпенем, пры гэтым ваду ліць не на плод, а на лыжку ці край слоіка, каб таматы не палопаліся. Вытрымаць па 5 хвілін. У трэці раз заліць гарачым яблычным сокам (на 1 л соку 30 г солі), закатаць слоікі і, перакуліўшы іх, астудзіць.

## Прыправа з перцу, сліў, памідораў і часнаку

0,5 кг перцу без насення, 1 кг чырвоных памідораў, 0,5 кг кіслых сліў без костачак або кіслых яблыкаў, 1,5-2 галоўкі часнаку прапусціце праз мясарубку (можна дабавіць 2-3 нацёртыя на дробнай тарцы морквіны). Усё перамяшаць, дабавіць па смаку соль і цукар, тушыць у каструлі 10-15 хвілін. Гарачую прыправу разлажыць у слоікі і закатаць. Гэтую прыправу можна падаваць да розных страў і нават проста намазваць на хлеб.

-1394-

*ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ*

# Частыя памылкі кансервавання

**Кансервы могуць сапсавацца па некалькіх прычынах:**

— пры закатванні слоіка накрыўка не была шчыльна прыціснутая, у выніку чаго ў слоік трапіла паветра, а слоік пры гэтым не перавярнулі, г. зн. не праверылі на герметызацыю;

— у час цеплавой апрацоўкі накрыўка была няшчыльна закрыта або пры награванні накрыўка прыўзнялася, і ў слоік трапіла вада з бака;

— цеплавая апрацоўка праводзілася пры больш нізкай тэмпературы, чым гэта неабходна, або час цеплавой апрацоўкі быў скарочаны;

— агародніна і плады былі дрэнна памытыя, з-за гэтага ў слоіку пры захоўванні з'явілася плесня і накрыўку сарвала;

— у кансервах выкарыстоўваліся пераспелыя прадукты або тыя, што доўга захоўваліся;

— шчыльныя плады не бланшыраваліся, а іх стэрылізацыя, у сваю чаргу, праводзілася пры больш нізкай тэмпературы, чым рэкамендавалася.

## Захоўванне кансерваў

У хатніх умовах кансервы захоўваюць у сухім, цёмным месцы (на святле яны выцвітаюць, пагаршаецца іх смак).

Звычайна ў рэцэпце ўказваецца, дзе павінны захоўвацца кансервы. У большасці выпадкаў іх можна захоўваць у пакаёвых умовах, але некаторыя прадукты павінны знаходзіцца ў халаднаватым месцы (у халадзільніку, падвале).

Перыядычна слоікі трэба правяраць, асабліва ў першы месяц пасля прыгатавання, сачыць, каб яны не замутнелі. Такія слоікі трэба хутка выкарыстаць.

Усе слоікі з прыкметамі псавання трэба адчыніць. Кансервы з вінным пахам і плесняй (плесню адразу выдаліць) можна прагрэць і выкарастаць. Кансервы з непремным пахам варта выкінуць.



-1395-

# Усходні гараскоп на наступны тыдзень

КАЗЯРОГА чакае «падманны» тыдзень. Ратуй вас Гасподзь увязацца ў якія-небудзь грашовыя аперацыі. Фінансавыя здзелкі вам проціпаказаны. Прыміце параду астролага і сканцэнтруйцеся на думках пра каханага чалавека. Даму акружае «густая» рамантычная аўра. Здаецца, ваша сэрца разрываецца паміж двума аднолькава дастойнымі паклоннікамі. Не спяшайцеся з выбарам.

ВАДАЛЕЯ можна павіншаваць — многія з тых, хто нарадзіліся пад вашым знакам задыяка, прасунуцца па службовай лесвіцы. Будзьце гатовыя прыняць цяжар славы і пашаны. Размяшчэнне планет такое, што ў вас ёсць рэальны шанс атрымаць вялікі выйгрыш за «зялёным сталом». Памятайце, што ваш ідэальны партнёр — гэта РЫБА ці РАК.

У РЫБЫ намячаецца паляпшэнне спраў па ўсіх напрамках. Майце на ўвазе, што нехта спрабуе — ненаўмысна ці наўмысна — уцягнуць вас у нейкую заведама асуджаную справу. Зрабіце на гэтым тыдні задуманую пакупку, лепшы дзень — 27 жніўня. Намячаецца пераезд у новую кватэру. Прыгатуйцеся да пачашчанага сэрцабіцця.

АВЕН поўны планаў і надзей, аднак, хутчэй за ўсё, пакуль яны не здзейсняцца. На жаль, абставіны сёння вышэй за вас. Давядзецца змірыцца з тым, што размяшчэнне планет на вашым персанальным небасхіле даволі неспрыяльнае. Адкладзіце да лепшых часоў — яны наступяць хутка і абавязкова — усе новыя пачынанні. Ваша апора на цяперашнім этапе — сваякі і сябры.

У ЦЯЛЬЦА магчымы фінансавыя страты. Вам трэба заняць чакальную пазіцыю і знізіць да мінімуму дзелавую актыўнасць. Не выключана нейкая спрэчная разборка. Двайная асцярожнасць прадпісана служачым банкаў і ўсім, хто па роду работы мае справу з грашыма. Нехта зусім свядома жадае нашкодзіць вам. Асабістае жыццё трапляе пад спрыяльнае размяшчэнне планет.

БЛІЗНЯТАМ трэба не пазней чацвярга закончыць усе важныя справы, бо ў пятніцу магчыма крутое змяненне кан'юнктуры. У гэты дзень можа здарыцца нейкая буйная замарочка ці высвятленне адносін. Ні ў якім выпадку не прымайце паспешлівых рашэнняў — яны будуць памылковыя. Ваеннаслужачага з «гарачай кропкі» перавядуць у больш спакойнае месца.

РАКА чакае выкананне нейкай важнай місіі. Ад яе паспяховага завяршэння будзе ў многім залежаць ваша будучыня. Магчыма, давядзецца працаваць па вечарах ці браць дакументы дадому. 25 жніўня паспяхова вырашыце фінансавую праблему. Нехта бесцырымонна ўрываецца ў адносіны закаханых. Апранайце на гэтым тыдні што-небудзь зялёнае ці ружовае.

ЛЕЎ з палёгкай уздыхне, урэгуляваўшы нейкую нялёгкую праблему. Хутчэй за ўсё, яна так ці інакш будзе звязана са сваяцкімі адносінамі. Вас чакае актыўная грамадская дзейнасць. К канцу тыдня настрой будзе пастаянна прыўзняты. Беспрацоўны мае шанц заключыць выгадны працоўны кантракт. Дама набірае зусім непатрэбныя ёй кілаграмы.

ДЗЕВА завяжа даволі карысны кантакт. На працы магчыма змяненне абстаноўкі ў лепшы бок. Першыя тры дні тыдня будуць даволі напружаныя. У працуючых дам ва ўзросце ад 22 да 38 гадоў не выключаны нервовыя зрывы. Прысвяціце адпачынку і расслабленню кожную вольную хвіліну. Будзьце гатовыя да таго, што ваша «любоўная лодка» можа сесці на мель.

ШАЛІ будуць заняты ў асноўным вырашэннем фінансавых пытанняў. Вам не трэба прымаць якое-небудзь важнае рашэнне 29 жніўня, гэты дзень лепш прысвяціць загараднаму адпачынку і лёгкай фізічнай працы на прыродзе. Магчыма, на службе адбудуцца спрыяльныя перамены. Атрымаеце крэдыт на льготных умовах. Дама мае шанс купіць выйгрышны латарэйны білет.

СКАРПІЁНА чакае напружаны працоўны графік. Вас чакаюць новыя знаёмствы і карысныя кантакты. Панядзелак — ваш лепшы дзень на гэтым тыдні, ён створыць добра задзел на астатнія дні. Амаль напэўна многімі авалодае жаданне эксперыментаваць, абстаноўка для гэтага складаецца спрыяльная. Закаханыя ўступаюць у перыяд крыху халаднаватых адносін.

СТРАЛЬЦУ спатрэбіцца напружанне намаганняў, каб вытрымаць шчыльны рабочы расклад. 27 жніўня — ідэальны дзень для вырашэння любой праблемы. Персанальны магніт вашай абаяльнасці прыцягвае акружаючых, вы — у цэнтры грамадскай увагі. Журналіст апублікуе бліскучы артыкул. Даўнія палюбоўнікі прымуць рашэнне стварыць сям'ю.

**Падрыхтаваў Сяргей БУЛАНЦАЎ.**

***Учора ў жыцці аднаго з нашых калег адбылася вельмі знамянальная падзея. Сяргей ГРЫБ узяў шлюб з чароўнай Святланай. Мы шчыра радуемся за свайго калегу і яго абранніцу. Кахання і шчасця, міру і святла, узаемаразумення і дабрабыту вам, маладыя!***

***Звяздоўцы.***

*НЕАБХОДНЫЯ ДРОБЯЗІ*

# На ўсе выпадкі жыцця



- Вырабляючы розныя канструкцыі, прыходзіцца калі-нікалі свідраваць у матэрыяле адтуліны на тую або іншую глыбіню. Абмежавальнікам у такіх выпадках можа быць, напрыклад, корак ад бутэлькі, надзеты на заціснуты ў дрылі (або свідравальным станочку) свердзел. Загадзя падрыхтаваўшы некалькі коркаў рознай вышыні, можна хутка настройваць дрыль на патрэбную глыбіню свідравання.
- Выконваючы малярныя работы, не забудзьце аб захаванасці пэндзля. Не кладзіце пэндзаль побач з бляшанкай, а трымайце яго заўсёды апушчаным у фарбу. Для гэтага запасіцеся металічным прутком і прасвідруйце ў дзяржанні пэндзля некалькі адтулін. Па меры памяншэння фарбы ў бляшанцы перастаўляйце пруток у другую адтуліну.
- Каб пры забіванні маленькіх цвікоў не параніць руку, скарыстайце простае прыстасаванне, выробленае з драўлянай прышчэпкі для бялізны. Частку губак прышчэпкі зрэжце нажом або спілуйце напільнікам. А каб трымаць цвікі было больш зручна, прапілуйце ў губках неглыбокія пазы.
- Аўтамабільныя пакрышкі, якія адслужылі, няцяжка прыстасаваць для захоўвання падсобных матэрыялаў, напрыклад, дошак. Для гэтага трэба прымацаваць пакрышкі да столі хлява на некаторай адлегласці адна ад другой і ўкладваць матэрыялы паміж імі.
- Стары галош таксама спатрэбіцца. Напрыклад, у вас забілася ракавіна або ванна, а прачысціць іх няма чым. Вазьміце галош, прыкладзіце яго да адтуліны ракавіны або ванны, моцна націсніце некалькі разоў на абцас. Струмень паветра пройдзе ў сцёкавую трубу і прачысціць яе.

-1396-

*СЛУШНЫЯ ПАРАДЫ*

# Кававая гушча

**Акрамя варажбы, яна можа спатрэбіцца ў гаспадарцы.**

- Дабаўляйце яе ў скрыні і гаршкі з пакаёвымі і балконнымі раслінамі, гэта будзе ім на карысць — палепшыцца структура глебы.
- Калі вы трымаеце на кухні так званы чайны грыб, то разам з чаем дабаўляйце ў яго і спітую каву. Яна таксама ўтрымлівае танін, неабходны для харчавання грыба, а напітак набудзе прыемны смак.
- А яшчэ навукай устаноўлена, што кававая гушча валодае процізапаленчым дзеяннем. У даўніну яе прыкладвалі да невялікіх ранак і гнайнічкоў. Карысная яна пры гастрытах і калітах. Таму ў кавярнях на Захадзе іншы раз можна назіраць наведвальнікаў, якія, выпіўшы каву, старанна выграбаюць лыжкамі кававую гушчу.
- А калі высушаную кававую гушчу змяшаць з тоўчанай яечнай шкарлупінай і трымаць у слоічку, вы атрымаеце бясплатны мыючы сродак абразіўнага дзеяння. Калі прыйдзецца адмываць графін, вазу або бутэльку мудрагелістай формы, дастаткова ўсыпаць чайную лыжку гэтай сумесі і ўліць крыху мыльнага раствору. Дзесятак—два энергічных устрэсванняў — і графін зазіхаціць крыштальнай чысцінёй!
- Калі на кухні ў вас нешта падгарэла, а на вуліцы занадта халадна, каб адчыніць акно, патрымайце на агні патэльню з кававай гушчай, і водар кавы хутка выцісне ўсе непрыемныя пахі — яна валодае ўласцівасцю іх паглынаць.

*СЛУЖБА ЗДАРОЎЯ*

# Сцеражыцеся інсульту

Спецыялісты вызначылі, што ўжыванне ў ежу вялікай колькасці агародніны і фруктаў рэзка паніжае верагоднасць інсульту. Калі хаця б раз на дзень вы будзеце есці ў якасці гарніру, напрыклад, капусту або фасолю, а на дэсерт — яблык, грушу або вінаград, то ў выніку рызыка «мазгавога ўдару» паменшыцца амаль удвая.

*МУЖЧЫНА Ў ДОМЕ*

# Склеп са старой бочкі

Не кожнаму па кішэні будаўніцтва капітальнага склепа. А дачніку на шасці сотках яшчэ і месца не хапае... Выйсце ёсць: старая жалезная бочка (150—200 л).

Вонкавую паверхню бочкі пакрыйце слоем разагрэтага бітуму (каб ён лепей «лёг», дабаўце крыху газы), а ўнутраную — фарбай.

Бочку закапайце ў зямлю, каб над паверхняй выступаў дзесяцісантыметровы борцік. На дно пакладзіце драўляны круг, а сценкі бочкі абліцуйце фанерай, тоўстым кардонам, чаротам або тым, што ў вас будзе прыдатнае пад рукамі. Накрыўку зрабіце з драўніны і абабіце бляхай. У такую бочку ўмяшчаецца да 10 кг бульбы, прычым закладваць яе варта ў сетках. Так зручней даставаць. Можна ў міні-склепе захоўваць і закатаную ў слоікі агародніну (у скрынках з сухім пяском), і моркву, і буракі.

Зверху на накрыўку пакладзіце поліэтыленавую плёнку, на яе насыпце слой пілавіння (20—25 см). Пілавінне ўтрамбуйце, прыкрыйце плёнкай, цыратай, рубероідам і дабаўце, каб не знясло ветрам, гнёт. Агароднікі, якія паспрабавалі выкарыстаць такі міні-склеп, сцвярджалі, што дабіліся амаль стопрацэнтнай захаванасці агародніны.

-1397-

СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

**Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы і запоўніце клеткі крыжаванкі.**

**Па вертыкалях:** 1. Кожура. 2. Усталость. 3. Собачник. 4. Резервуар (у лямпе). 5. Теплота. 6. Кожевенный завод. 12. Одаривание. 13. Возня (разм.). 15. Простор. 16. Отвращение. 18. Рассол (селядцовы). 22. Отпрыск. 24. Ноябрь. 25. Лоскут. 26. Ворота. 28. Каменщик. 29. Мерёжа.

**Па гарызанталях**: 7. Намётка. 8. Обязанность. 9. Папаха. 10. Летучая мышь. 11. Почва. 14. Отдых. 17. Кожевник. 19. Уход. 20. Белка. 21. Засов, запор. 23. Горе. 27. Исчезновение. 30. Взрыв. 31. Известь. 32. Вереск. 33. Кориандр. 34. Мракобес.

**Склаў крыжаванку Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*



*Хочаце — верце...*

# Дзмітрый Зіма падабраў тайны ключ, схаваны Настрадамусам у «Пасланні да Генрыха»

**Настрадамус піша ў «Пасланні да Генрыха»: «Тайны ключ будзе адкрыты ў кастрычніку 1997 года. Гэты чалавек народзіцца ў 1966 годзе». Дзмітрый Зіма нарадзіўся ў 1966 годзе. Тайны ключ да «Паслання да Генрыха» ён падабраў у кастрычніку 1997 года. Цікавае супадзенне.**

**Маладыя маскоўскія даследчыкі Дзмітрый і Надзея Зіма першымі паспрабавалі прымяніць да рыфмаваных чатырохрадкоўяў Настрадамуса матэматыку і дасягнулі поспеху. Для большай дакладнасці яны працавалі з арыгінальным французскім тэстам, а дапамагаў ім у расшыфроўцы прафесар МДУ і знаўца старафранцузскай мовы і латыні.**

Дзмітрыю і Надзеі ўдалося знайсці просты і зразумелы ключ да прароцтваў і раскрыць зашыфраваны ланцужок прадказаных Настрадамусам дат. Звыш палавіны з іх ужо паспелі здзейсніцца ў дакладнай адпаведнасці з напісаным. Рэвалюцыі ў Расіі і ў Францыі, дзве сусветныя вайны, развал СССР, вайна ў Афганістане і многае іншае было прадказана з дакладнасцю да некалькіх месяцаў за шмат стагоддзяў да таго, як усе гэтыя падзеі адбыліся. Дакладнасць прадказанняў Настрадамуса перавысіла 90 працэнтаў. Аднак самым сумным адкрыццём стала тое, што ўжо ў самай недалёкай будучыні перад чалавецтвам па-ранейшаму маячыць прывід новай сусветнай вайны ці, гаворачы словамі Настрадамуса, «трэці патоп чалавечай крыві».

Настрадамус быў вельмі адукаваным чалавекам свайго часу, які здолеў спыніць некалькі эпідэмій чумы. Яго астранамічныя разлікі наўрад ці ўступалі разлікам Каперніка. Тым больш дзіўна, што ў адной з прадмоў да яго цэнтурый, вядомай як «Пасланне да Генрыха», у вачах стракацідь ад недакладнасцяў і памылак, у тым ліку арыфметычных. Можа, ён проста пісаў гэтае пасланне ў спешцы? Зноў жа не — сам Настрадамус звяртае ўвагу на тое, што гэты кароценькі тэкст пісаўся ім год з чвэрцю — з сакавіка 1557 па чэрвень 1558 года — па некалькі слоў у дзень! Пры гэтым прарок вельмі моцна скажае Біблію. У пасланні прама гаворыцца пра нейкі шыфр, і таму лагічна меркаваць, што гэтыя памылкі з'яўляюцца проста элементамі шыфроўкі.

Гэты ключ быў вылічаны з дапамогай строгай матэматыкі. Каб не перагружаць артыкул матэматычнымі падрабязнасцямі, можна проста сказаць, што ён уяўляе сабой чысло з чатырох адзінак, разбітых надвое, — 11, 11. Цікава, што гэтае чысло Настрадамус апісаў у самых розных месцах сваіх прадказанняў. Напрыклад, у пасланні сказана: «Уся пабудова і гармонія прароцтваў базуецца часткова на трыножніку (г. зн. на трох адзінках), прычым карыстацца гэтым «трыножнікам» трэба, «змясціўшы магічны жэзл (яшчэ адну адзінку) паміж яго ножкамі» (цэнтурыя 1-я, катрэн 2-гі).

Настрадамус піша чорным па беламу, што пачатак новай эры будзе пакладзены ў Расіі, пачатак жа новай вайны — на тэрыторыі старажытняга Вавілона, дзе сёння знаходзіцца дзяржава пад назвай Ірак. Пацверджаннем таму можа служыць іракскі крызіс, які, нягледзячы на сваё паступовае згасанне, яшчэ дасць аб сабе ведаць.

З тэкстаў Настрадамуса можна зразумець, што іракскі крызіс — гэта пачатак вялікай вайны. Тут, праўда, трэба растлумачыць: у раскрытай Дзмітрыем і Надзеяй Зіма табліцы падрабязных дат бліжэйшай будучыні няма, за выключэннем дзвюх-трох. Ёсць іншае — там змяшчаецца яўнае ўказанне, што амаль палавіна яго катрэнаў-чатырохрадкоўяў прысвечана перыяду з 1998 па 2002 гады. Адсюль становіцца зразумела, што менавіта ў гэты перыяд будзе разрастацца зародак новай сусветнай вайны. Іншымі словамі, зусім не абавязкова, што цяперашні крызіс з прымяненнем усіх ваенных сіл грымне прама цяпер. Аднак, калі нават сёння яго ўдасца прадухіліць, ён усёроўна адбудзецца крыху пазней, лічыць Настардамус.

Тым не менш апісаная Настрадамусам сітуацыя вельмі моцна нагадвае рэчаіснасць. Больш за пятнаццаць катрэнаў прарока прысвечаны таму, што вайну распачне нейкі пралюбадзей, які захоча прыкрыць свае грахі з дапамогай баявых аперацый. «Кроў пральецца з-за адпушчэння грахоў аднаго маладога», менавіта з-за гэтага прыйдзе ў Міжрэчча (сучасны Ірак) «сякера пралюбадзейнага граху», калі «аслепне з-за пажаднасці гонар». Вось як апісваецца ў адным з катрэнаў: «Ён прыйдзе, агідны, небяспечны, несумленны... будзе ціраніць Міжрэчча (Ірак)... усіх прамяняе на жанчыну-пралюбадзейку».

Гэтыя катрэны вядомыя вельмі даўно, але да адкрыцця ключа нікому нават у галаву не магло прыйсці, што гэта датычыцца нашага часу. «З-за сваіх жанчын ён аддасць людзей чорнай смерці. Ніколі не было такой звычайна-жорсткай істоты». Верагоднасць памылкі практычна выключана. Супадае амаль усё: і месца дзеяння — Ірак, і прычына — пралюбадзейства, і нават тое, якую мянушку атрымае Клінтан. Цяпер у Амерыцы справу Клінтана называюць «Зіпергейт», ад слова «шырынка», а вось як пра гэта гаворыць Настрадамус:

«Жаночая знявага прыйдзе правячаму Прынцу: сумніўная мянушка ад штаноў будзе для яго апошняй. Хутка Правіцель — ад прыроды хітры прынясе велізарнае зло для сваёй краіны.»

Да таго, як вайна стане глабальнай, пройдзе яшчэ некалькі гадоў. Рэзка павысіцца напружанасць у свеце. Пагоршацца і адносіны Амерыкі з Расіяй. «Прачнецца даўно заснуўшая нянавісць», ды і ў самой Амерыцы ўзнімецца хваля пратэстаў. Ну, а далей, як і ў выпадку з В'етнамам, каб нейтралізаваць незадаволенасць сваіх грамадзян, ЗША давядзецца працягваць ваенную істэрыю, а значыцца, ім спатрэбіцца новы вораг. Лягчэй за ўсё знайсці такога ворага ў іншых арабскіх краінах ці ў Расіі.

«Жахлівая вайна падрыхтаваная на Захадзе. Год наступны — прыдзе чума». «Пасля перамогі аднаго непакорнага поля будуць адноўленыя новыя гульні з Доўгім Шастом». «Бягучыя агні, з неба б'юць пікі, наступны канфлікт — паміж варонамі, якія б'юцца».

Не выключана, што пад «дзвюма варонамі» маецца на ўвазе два дзяржаўныя сімвалы — двухгаловы расійскі арол і арол амерыканскі. Што ж датычыцца «доўгіх шастоў» і «пік, якія б'юць з неба», дык гэтае апісанне як мага лепш падыходзіць для сучасных ракет, магчыма, і ядзерных. Іначай цяжка растлумачыць такія выказванні Настрадамуса, як «праз мора ударыць пікі» і ягоны выкрык жаху: «Якое смяротнае кап'ё!»

Падобна на тое, што аанаўскія супрацоўнікі не дарэмна правяраюць іракскія заводы па вытворчасці хімічнай і бактэрыялагічнай зброі. Настрадамус гаворыць пра такую небяспеку прама: «З пакаранага месца адбудзецца уцечка і чума, часы змяняюцца. Вецер. Смерць ад Вялікай трэцяй». Тут размова сапраўды ідзе аб уцечцы інфекцыі з заваяваных гарадоў Ірака. Аднак ёсць і больш ясныя катрэны:

«Пастаўлены на раўніне катлы інфіцыруючых. Віно, мёд і масла, і ўсё створана на печках. Без злога слова будуць пагружаны злодзеі. Сем дымоў пакрыюць ад залпавых пушак (або ад пушачных залпаў)».

Тут Настрадамус гаворыць пра штучнае прыгатаванне нейкай інфекцыі і нават пра яе распаўсюджванне з дапамогай гармат. Самае цікавае, што другі радок указвае на тое, што баявыя атрутныя рэчывы будуць выраблены ў самых звычайных печках, прызначаных для вытворчасці харчовых прадуктаў. Ужо з'явілася інфармацыя аб тым, што Садам Хусейн сапраўды выкарыстоўвае піваварнае абсталяванне для вытворчасці хімічнай і бактэрыялагічнай зброі. Настрадамус апісвае гэтую зброю як «снег больш чым белы», гаворыць таксама і пра нейкую смерць «ад хваробы жывата». Мяркуючы па тэксту Настрадамуса, першую ўспышку эпідэміі ці атручання ўдасца спыніць, аднак праз нейкі час «чума» успыхне з новай сілай, прычым яе наступствы будуць бачны не толькі ў Азіі і Афрыцы, але таксама і ў Еўропе і нават у Амерыцы.

Найбольш непрыемны зыход, які, па словах прарока, хоць і малаверагодны, але магчымы, гэта тое, што «землі стануць амаль без людзей, і доўгі час на іх будзе мір». Аднак сам жа ён піша: «Найгоршае будзе стрымана». Больш таго, за гэтай вайной французскі прарок бачыць надыход новай эры і нават называе яе «амаль новым Залатым векам». Пік трэцяй сусветнай вайны Настрадамус аднёс на 2002-гі год.

Выратаванне свету абудзецца, па словах Настрадамуса, з-за ўзнікнення новай рэлігіі. Гэта будзе такое вучэнне, якое спалучыць сучасную навуку з такім паняццем, як Бог. Магчыма, менавіта ў Расіі гэты рух разаўецца з найбольшай сілай. У сувязі з гэтым новая эра распачнецца менавіта тут, хоць да гэтага трэба будзе перажыць яшчэ многія цяжкасці. Напрыклад, у бліжэйшы час Расіі пагражае рэзкая змена палітычнага курсу.

Ёсць указанні Настрадамуса на незадаволенасць арміі і на яе ролю ў магчымым пераваароце. Прычына ж вельмі звычайная — «для салдатаў не знойдуць грошай».

Па ўсёй верагоднасці, ужо ў сярэдзіне 1999-га ўлада ў Расіі будзе зусім непазнавальнай. Прыдуць новыя людзі, якія будуць перамагаць не «сілай жалеза і вайны», а «мяккімі словамі на нарадзе». Аднак у Расіі, як вядома, нічога добрага доўга не бывае, і яшчэ да 2000-га нейкі лідэр гэтага руху хутчэй за ўсё будзе забіты, і менавіта гэта можа паслужыць прычынай для каласальнага абвастрэння канфлікту, для «пачварнага знішчэння людзей і жывёл».

Прычынай таму, гаворыць Настрадамус, стане тое, што за некалькі гадоў, за якія трэба будзе навучыцца жыць па-новаму, наўрад ці многія здолеюць адмовіцца ад такога чалавечага пачуцця, як прага помсты.

***«На грани невозможного».***

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

- **22 жніўня 1580 года** войска на чале з князем Сярэбраным спаліла горад Магілёў.
- **У гэты дзень у 1741 годзе** нарадзіўся Жан Франсуа Лаперуз, французскі мараплавец, кіраўнік кругасветнай экспедыцыі, даследаваў астравы Ціхага акіяна, адкрыў праліў, названы яго імем. Прыблізна ў 1788 годзе экспедыцыя Лаперуза прапала без звестак, выйшаўшы з Сіднея (Аўстралія) на поўнач.
- **22 жніўня 1861 года** нарадзіўся беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесіянальнага тэатра Ігнат Буйніцкі.
- **22 жніўня 1862 года** нарадзіўся Клод Дэбюсі, французскі кампазітар, заснавальнік музычнага імпрэсіянізма.
- **У гэты дзень у 1903 годзе** нарадзіўся Аляксандр Пятровіч Старасцін, адзін з выдатнай чацвёркі братоў Старасціных, легенда савецкага футбола.
- **22 жніўня 1904 года** з'явіўся на свет Дэн Сяопін, кіраўнік кітайскіх эканамічных рэформаў.
- **22 жніўня 1920 года** нарадзіўся амерыканскі пісьменнік Рэй Дуглас Брэдберы, аўтар фантастычных раманаў («451 па Фарэнгейту»), навел, навуковых даследаванняў.
- **У гэты ж дзень таго ж 1920 года** ў тамбоўскім сяле Каменка ўспыхнула сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам А.С. Антонава. Было жорстка падаўлена часцямі Чырвонай арміі пад камандаваннем М. Тухачэўскага.
- **22 жніўня 1941 года** Дзяржаўны камітэт абароны СССР прыняў пастанову пра выдачу ўсім чырвонаармейцам і камандзірам, што ўдзельнічаюць у баях, па 100 грамаў гарэлкі штодня.
- **22 жніўня 1991 года** Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР даў згоду на арышт і прыцягненне да крымінальнай адказнасці народных дэпутатаў Бакланава, Болдзіна, Варэннікава, Старадубцава, Шэніна за ўдзел «у антыдзяржаўнай змове». Былі таксама арыштаваны Кручкоў, Язаў, Цізякоў, Янаеў. Яшчэ адзін актыўны гэкачэпіст — міністр унутраных спраў Пуга — па афіцыйнай версіі, застрэліўся на сваёй кватэры.

## Цікава

***Амерыканскія дыетолагі заклікаюць сваіх кліентаў адмовіцца ад галодных дыетаў. Яны нават не пярэчаць, калі пацыент набярэ крыху лішкавай вагі — лепш быць таўстым і здаровым, чым худым і хворым.***

Па апошніх даных, чалавеку вельмі неабходныя тлушчы — у першую чаргу раслінныя. Яны спрыяюць выпрацоўцы гармонаў, пастаўляюць вітаміны А, Д, Е, К, рэгулююць тэмпературу цела і нават дазваляюць узнаўляць клетачную структуру. Асабліва трэба задумацца жанчынам. Калі празмерна мучыць сябе дыетамі, можна атрымаць рак. Мужчынам жа, якія знясільваюць сябе дыетамі, пагражае інсульт.

Дарэчы, высветлена, што недахоп тлушчаў можа прывесці і да нярвовых расстройстваў. Нездарма даўно заўважана, што хударлявыя людзі часцей злуюцца і сварацца, у той час як таўстуны вызначаюцца зайздросным дабрадушшам.

## І так бывае

***Страшэнна захоплены футболам кіраўнік адной з англійскіх дызайнерскіх фірмаў Эшлі Кінс плаціць сваім супрацоўнікам па 50 фунтаў стэрлінгаў кожны раз, калі футбаліст каманды «Ковентры-Сіці» Дарэн Хакербі забівае гол. А калі яму ўдаецца забіць тры галы ў адной гульні, кожны з 12 супрацоўнікаў фірмы атрымлівае па 100 фунтаў.***

Аднак, калі суддзя паказвае Дарэну жоўтую картку, з іх зарплаты, наадварот, вылічваюцца па 50 фунтаў, а выдаленне з поля «каштуе» 100 фунтаў стэрлінгаў. Бос, які аб'явіў сябе спонсарам 21-гадовага таленту, вырашыў прымусіць сваіх супрацоўнікаў таксама «хварэць» за Дарэна. Эшлі дабіўся свайго, і цяпер яго падначаленыя, некаторыя з якіх раней ніколі не цікавіліся футболам, сталі сачыць за кожным матчам і захапляцца галамі Хакербі.

«Спачатку мы ўспрымалі ідэю боса скептычна, — гаворыць супрацоўнік фірмы Джылс Пойнер, — але сёння ўсе ёю заразіліся. Мы молім Бога паслаць удачу Дарэну, калі ён выходзіць на поле». Трэба сказаць, што сваёй гульнёй Хакербі стараецца асабліва не наносіць урону кашалькам такіх адданых балельшчыкаў. Апошнім часам ён гуляе дысцыплінавана і не атрымоўвае пакаранняў ад суддзяў.

Супрацоўнікам яшчэ пашанцавала, што іх гаспадар не стаў спонсарам партнёра Дарэна па камандзе Пола Уільямса, які за сезон атрымаў 10 жоўтых картак і не забіў ніводнага гола.

## Неверагоднае, загадкавае

***У Мюнхене жыве нейкі Курт Шварц. Пра яго кажуць адназначна — феномен.***

У свае 32 гады Курт не мае ніводнага фотаздымка. І гэта нягледзячы на тое, што яго фатаграфавалі пастаянна: і ў дзіцячым узросце, і ў больш познім, але ні адно фота не атрымалася! Па гэтай прычыне ён не можа атрымаць вадзіцельскія правы ці выехаць за мяжу.

Тлумачэнне гэтай з'яве пакуль не знойдзена. Аднак жонцы Курта Габі нядаўна прыйшла ў галаву цудоўная ідэя: знайсці чалавека знешне падобнага на Шварца, загрыміраваць, каб дабіцца поўнага падабенства, і сфатаграфаваць.

Як гэта будзе зроблена, пакажа час, таму ж сам герой пакуль знаходзіцца ў роздуме.

## Анекдот

*— Чым больш чалавеку даюць, тым больш яму хочацца.*

*— А табе давалі калі-небудзь дзесяць гадоў строгага рэжыму?*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5028.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12